

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 29 верасня 1989 г. № 39 (3501) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


Вядомаму беларускаму графіку, заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР Арлену КАШКУРЭВІЧУ споўнілася 60 гадоў. Нататку Уладзіміра САВІЧА пра свайго калегу па мастацкім «цэху» чытайце на стар. 11.

Фота Ул. КРУКА.

## У НУМАРЫ:





**25 кастрычніка пачне работу сесія Вярхоўнага Савета БССР. На ёй, у прыватнасці, будуць разгледжаны праекты законаў аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі Беларускай ССР, аб выбарах народных дэпутатаў БССР і аб выбарах народных дэпутатаў мясцовых Саветаў.**

**Водгукі і прапановы па гэтых законапраектах працягваюць паступаць. Толькі за мінулы тыдзень наша рэдакцыя атрымала калектыўныя лісты з Маладзечанскага завода парашковай металургіі, ад прафгруп Мінскага завода халадзільнікаў, ад сходу грамадзян з Наваполацка, рэзалюцыі прафсаюзнай канферэнцыі Мінскага ўпраўлення «Тэхналадка», партсходу часовага навукова-вытворчага комплексу № 7 НВА «Цэнтр», а таксама пісьмы ад інжынера НВА «Інтэграл» В. Ішчанкі, ад тэхнолага па зварцы з Мінска Р. Куксава і многіх іншых. Некаторыя з водгукаў друкуюцца ў гэтым нумары.**

# Ленін, Вадавозаў, усе мы і... дэмакратыя

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР запрасіў грамадзян рэспублікі да абмеркавання праектаў Законаў БССР «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР», «Аб зменах і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР». Але, па сутнасці, некаторыя палажэнні гэтых праектаў (выбары ад грамадскіх арганізацый, акруговыя перадвыбарчыя сходы і інш.) ужо абмяркоўваліся, падвяргаліся сур'ёзнай крытыцы і на практыцы выявілі сваю кансерватыўнасць у час выбараў народных дэпутатаў СССР. І тым не менш мы зноў іх абмяркоўваем.

Тое, што ў нашым грамадстве існуе значная група людзей з інтарэсамі, процілеглымі інтарэсам працоўных, што палітычную і эканамічную ўладу гэтыя людзі трымаюць у сваіх руках, — гэта не проста тэарэтычныя разважанні, а палажэнне, якое мае пэўнае практычнае значэнне, без уліку якога палітычную сітуацыю ў краіне і ў рэспубліцы аб'ектыўна ацаніць вельмі складана.

Правілы прэпарыравання палітычных працэсаў пакінуў нам У. І. Ленін: «Людзі заўсёды былі і заўсёды будуць дурненькімі ахвярамі падману ў палітыцы, пакуль яны не навучацца за любымі маральнымі, рэлігійнымі, палітычнымі, сацыяльнымі фактамі, заявамі, абяцаннямі вышукваць інтарэсы тых або іншых класаў».

Вельмі многія рэаліі нашага жыцця, асветленыя такім чынам, прадстаюць у нязвыклым для нас выглядзе.

Хваляванні ў асяроддзі працоўных, з'яўленне грамадска-палітычных рухаў, мітынгі і забастоўкі з'яўляюцца прыкметамі нарастання сацыяльнай барацьбы, прычыны якой ляжаць перш за ўсё ў паглыбленні асноўнай эканамічнай супярэчнасці нашай мадэлі сацыялізму — паміж развітымі прадукцыйнымі сіламі і заімшэлымі вытворчымі адносінамі (у аснове якіх — цэнтралізаванае размеркаванне прадуктаў працы).

Зусім натуральнай з'яўляецца рэакцыя процілеглага боку: усімі сродкамі патушыць напал грамадскіх выступленняў, схаваць палітычны характар рухаў, якія ўзнікаюць; асабліва эфектыўная для гэтага арганізацыя выступленняў перадавых рабочых, якія асуджаюць «нацыяналістаў», «экстрэмістаў», «забастоўшчыкаў», усю «мітынговую дэмакратыю» ў цэлым і заклікаюць спыніць спрэчкі і добра працаваць на сваіх рабочых месцах.

«Панове публіка! — хочацца сказаць з прычыны ўсіх гэтых фраз «патрэотов».— Не верце фразам, паглядзіце лепш, каму выгадна!» (Ленін). Губляючы аўтарытэт у народзе, ва ўмовах абвастрэння шматлікіх супярэчнасцей, апарат перабірае струны эканомікі, палітыкі такім чынам, каб хоць часткова вырашыць праблемы, не закрануўшы святая святых — палітычнай і эканамічнай улады адміністрацыйна-кіруючай сістэмы.

У палітычнай абстаноўцы, што за апошні час змянілася, патрэбны і новыя правілы выбараў. Гэтыя «новыя» правілы і вынес для ўсенароднага абмеркавання Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР.

Асабліва цікава аналізаваць гэтыя дасягненні перадавой дэмакратычнай думкі канца XX стагоддзя з дапамогай методыкі, прапанаванай дзевяноста гадоў назад В. В. Вадавозавым. Яна выкладзена ў яго кнізе «Избирательное право в Европе и в России» (выдавецтва Браказ-Эфрон, С.-Пецярбург, 1906).

На стар. 14 чытаем:

**«Каб уясніць сабе ўсялякую выбарчую сістэму, трэба высвятліць наступныя пытанні:**

**1. Каму належыць выбарчае права...**

**2. Як арганізавана выбарчае права з боку ўнутранага, г. зн. ці карыстаюцца выбаршчыкі роўнымі правамі ці яны арганізаваны ў саслоўі, курыі ці іншыя групы, па якіх і адбываюцца выбары, іншымі словамі, ці карыстаюцца выбаршчыкі правамі роўнымі або няроўнымі».**

Гледзячы ў абмяркоўваемыя законапраекты, адказваем, што выбаршчыкі арганізаваны ў «курыі» па прыкмеце прыналежнасці да рэспубліканскіх кіруючых органаў і грамадскіх арганізацый і роўнымі правамі не валодаюць.

Разгледзім значэнне гэтых «курый» з пункту гледжання іх інтарэсаў.

У нашай краіне адзіная партыя прама і ўскосна кіруе камсамолам, прафсаюзамі і ўсімі іншымі «фармальнымі» арганізацыямі. У сукупнасці ўсе яны арганізаваны ў адзіную манапольную палітычную структуру. Інтарэсы якіх пластоў грамадства яна абараняе?

Пакінем для аматараў матэматыкі стандартны адказ, што партыя рабочых суміруе і інтэгрыруе погляды ўсіх пластоў грамадства. «У нас пастаянна робяць тую памылку, што ацэньваюць лозунгі, тактыку вядомай партыі ці групы, яе накірунак увогуле, па намерах ці матывах, якія сама гэтая група прапаноўвае, — пісаў Ленін. — Такая ацэнка нікуды нявартая. Добрымі намерамі — гэта ўжо даўно вядома — выбрукавана пекла».

Маючы ўсё гэта на ўвазе, можна пэўна сказаць, што выбары ад грамадскіх арганізацый, а дакладней ад кіруючых органаў грамадскіх арганізацый — гэта дэлегіраванне апаратам у Вярхоўны Савет дэпутатаў, якія ў асноўным выяўляюць інтарэсы адміністрацыйна-кіруючага класа.

Але вернемся да аналізу выбарчай сістэмы паводле Вадавозава.

**«3. Як арганізавана выбарчае права з боку знешняга, тэхнічнага, і ці забяспечвае гэтая сістэма сапраўднае выяўленне волі выбаршчыкаў ці яна дае магчымасць якой-небудзь сіле, староннняй выбаршчыкам (ураду або якому-небудзь грамадскаму класу), уплываць на вынік выбараў?».**

Гледзячы ў законапраекты, адказваем: для абмежавання волі выбаршчыкаў прадугледжаны: акруговыя перадвыбарчыя сходы; магчымасць арганізацыі няроўных па колькасці выбаршчыкаў акруг; магчымасць перакідкі ваеннаслужачых у любы раён для падтрымкі угодных кандыдатаў; значныя ўскладненні пры арганізацыі вылучэння кандыдатаў па месцы жыхарства выбаршчыкаў і некаторыя іншыя палажэнні.

Разглядаем праекты далей. Наступнае пытанне Вадавозава:

**«4. Пры якіх знешніх умовах адбываюцца выбары (свабода агітацыі або яе адсутнасць)?».**

Ёсць у праектах некалькі пунктаў, якія абмяжоўваюць свабоду агітацыі. Для правядзення самага малога мітынгу неабходна звяртацца па дазвол, не прадугледжаны законам выраб лістовак, абмежаваны спосабы прыцягнення сродкаў кандыдатам на перадвыбарчую кампанію, а акруговыя камісіі (вопыт ужо ёсць) выпускаюць лістоўкі толькі з біяграфіямі кандыдатаў. Іх палітычныя якасці застаюцца нераскрытымі. Істотнае абмежаванне — абавязковасць адпаведнасці праграмы кандыдатаў Канстытуцыі БССР і Канстытуцыі СССР. Што ж гэта за дэпутаты, якія не ставяць за мэту палепшыць існуючае заканадаўства?

Пасля таго, як мы разгледзелі асноўныя палажэнні праектаў Законаў БССР «Аб зменах і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР» і «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР», той жа Вадавозаў дапаможа нам класіфікаваць сістэму, якая нам прапаноўваецца. У цытаванай ужо кнізе на стар. 9 чытаем:

**«Такім чынам, у цяперашні час пры выбарах у парламент дзейнічаюць тры выбарчыя сістэмы.**

**Адна сістэма, якая ўсё больш і больш распаўсюджваецца, якая ў недалёкім будучым, верагодна, будзе прынята паўсюдна, грунтуецца на прынцыпе роўнасці ўсіх людзей і на праве ўсіх людзей удзельнічаць у кіраўніцтве той дзяржавы, да якой яны належаць, другая, што паступова выцясняецца першай, звязвае права на ўдзел у кіраванні дзяржавай з валоданнем вядомай маёмасцю, трэцяя, нарэшце, якая амаль знікла, звязвае гэтае права з прыналежнасцю чалавека да пэўнага саслоўя і прызнае права на кіраванне дзяржавай не за чалавекам, а за саслоўем».**

Выбарчая сістэма, якая абмяркоўваецца зараз у рэспубліцы, ці не найбольш блізкая да саслоўнай, якая «амаль знікла» і прысуд якой быў вынесены па меншай меры ў 1906 годзе.

Паспяшаліся, пан Вадавозаў!

Прайшло больш за трыста гадоў, як у Пенсільваніі ўпершыню было ажыццёўлена ўсеагульнае галасаванне, а нам сёння прапаноўваецца сістэма выбараў, прынцыпы якой увесь дэмакратычны свет пакінуў у аналах гісторыі.

Наш народ заслужыў, выпакутаваў права на сапраўды ўсеагульныя, прамыя, роўныя выбары, і праекты Законаў БССР «Аб зменах і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР», «Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР» — гэта ў нейкім сэнсе спроба абмежаваць наша грамадзянскае Права на Выбар.

**Сяргей ЯФІМАЎ,**
**інжынер-канструктар.**
г. Мінск.

**ЧЫТАЧ ПРЫЙШОЎ У РЭДАКЦЫЮ**

# Па дарозе ў Вярхоўны Савет...

**Перш чым расказаць пра чарговы візіт нашага чытача ў рэдакцыю, зробім спасылку на лімаўскую пошту апошняга тыдня, у большасці сваёй прысвечаную абмеркаванню законапраектаў аб выбарах. Сёння гэта «гарачая» тэма. Людзі сур'ёзна задумваюцца пра свой заўтрашні дзень. «Лёс Беларусі, дэмакратызацыя грамадства і перамены жыцця да лепшага будуць залежаць ад таго, якіх людзей мы выберам у Саветы...» — такім радком пачынаецца зварот удзельнікаў мітынгу Фрунзенскага раёна г. Мінска, які адбыўся па вуліцы Матусевіча 20 верасня і на якім прысутнічала каля 3000 чалавек (тэкст яго быў дасланы ў рэдакцыю «ЛіМа»). Ад імя ўдзельнікаў мітынгу зварот падпісалі яго вядучыя Г. БАНКЕВІЧ, які пражывае па вуліцы Бельскага, і намеснік старшыні Фрунзенскага райвыканкома Г. ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

**Якія ж прапановы патрабавалі ўнесці ў законапраекты аб выбарах удзельнікі мітынгу? Забяспечыць усеагульныя, роўныя і прамыя выбары тайным галасаваннем, па прынцыпе «адзін выбаршчык — адзін голас»; адмяніць акруговыя сходы і выбары дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, вылучаныя імі кандыдаты павінны балаціравацца ў тэрытарыяльных акругах; выбаршчыкі вайсковых фарміраванняў павінны галасаваць толькі па месцы іх пастаяннай дыслакацыі. Патрабуецца адмяніць артыкул, у якім гаворыцца пра адказнасць за крытычную агітацыю ці байкатаванне выбараў, а таксама ўвесці раздзел аб датэрміновым адкліканні дэпутатаў...**

**А цяпер — пра візіт нашага чытача.**

**Малодшы навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага інстытута кардыялогіі Юрый Андрэевіч СЦЯПАНЧЫК прыйшоў у рэдакцыю таксама з нагоды абмеркавання праектаў законаў аб выбарах. «Па дарозе ў Вярхоўны Савет БССР вырашыў завітаць у «ЛіМ», — сказаў ён, — каб пазнаёміць рэдакцыю з дакументамі, пад якімі падпісалася дзесяць тысяч чалавек — дзесяць тысяч грамадзян Беларусі...»**

**На пытанне, як і дзе збіраліся подпісы, Ю. Сцяпанчык адказаў:**

— Пасля таго, як былі апублікаваны законапраекты, узнікла ініцыятыўная група, якая распрацавала зварот у Вярхоўны Савет рэспублікі. Зварот гэты дзякуючы намаганням актывістаў руху за перабудову, ініцыятыве грамадзян, што, дарэчы, не ўваходзяць у нефармальныя аб'яднанні, пайшоў, як кажуць, у народ. Подпісы збіралі проста на вуліцах; у час мітынгаў, на прадпрыемствах. Вось чаму ў гэтых дакументах, якія я перадам у Вярхоўны Савет БССР, такая шырокая геаграфія, разнастайнасць сацыяльная і прафесійная. Заўважу: фактычна праведзены рэферэндум, у якім прынялі ўдзел і калектывы цэлых прадпрыемстваў буйных гарадоў рэспублікі, і жыхары раённых цэнтраў. Людзі не могуць зразумець, чаму пасля таго, як народнымі дэпутатамі СССР на сесіі Вярхоўнага Савета рэзка крытыкаваўся саюзны Закон аб выбарах, у беларускіх праектах законаў яго творцы імкнуцца замацаваць антыперабудовачныя палажэнні?

Юрый Сцяпанчык паказаў нам і ліст да Васіля Быкава, падпісаны амаль сотняй жыхароў рэспублікі. Працытуем яго: «З мэтай не дапусціць далейшага зніжэння аўтарытэта КПСС і ў інтарэсах перамогі сапраўднай, а не ўяўнай, камуністычнай маральнасці, мы, грамадзяне БССР, просім Вас, паважаны Васіль Уладзіміравіч, выкарыстаць увесь свой уплыў народнага пісьменніка Беларусі дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, каб не дапусціць прыняцця Вярхоўным Саветам БССР антыдэмакратычнага закона аб выбарах народных дэпутатаў БССР, які абумоўлівае асобыя прывілеі прадстаўнікам Камуністычнай партыі Беларусі і іншых грамадскіх арганізацый. Таксама заклікаем Вас галасаваць і за адмену бюракратычных акруговых перадвыбарных сходаў».

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ**
**І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ**
**«ЛіМа».**

**P. S. Днямі мы сазваніліся з Юрыем Сцяпанчыкам. Ён паведаміў: дакументы з дзесяццю тысячамі подпісаў у Вярхоўным Савеце БССР зарэгістраваны.**

# УСЕ РОЎНЫЯ?

Не трэба быць юрыстам-правазнаўцам, каб заўважыць супярэчнасць паміж дэкларуемым у арт. 84. Закона аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі БССР усеагульным роўным выбарчым правам (што, як вядома, патрабуе захавання прынцыпа «адзін выбаршчык — адзін голас») і палажэннем аб выбарах народных дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый. Аб якім роўным праве можа ісці гаворка, калі ўсе дэлегаты з'ездаў, канферэнцый і пленумаў грамадскіх арганізацый будуць мець як мінімум два галасы? Успамінаецца прадбачанне Оруэла: «Усе выбаршчыкі роўныя, але адны больш роўныя, чым другія...»

Думаю, што грамадскім арганізацыям можна прадаставіць права вылучэння сваіх кандыдатаў па выбарчых акругах, а ўжо лёс іх дэпутацкіх мандатаў павінны вырашаць усе выбаршчыкі.

**Не менш важным з'яўляецца пытанне аб акруговых перадвыбарчых сходах. У арт. 89 гаворыцца або тым, што яны могуць праводзіцца. Але гэтае — «могуць» хутчэй за ўсё на практыцы ператворыцца (па волі выбарчых камісій) у «павінны». Неабходнасць акруговых сходаў, як правіла, аргументуецца складанасцю выбару з вялікай колькасці кандыдатаў — маўляў, выбаршчыкі не ў стане за два месяцы высветліць «хто ёсць хто?» А што, так званыя «прадстаўнікі працоўных калектываў» на акруговым сходзе змогуць гэта зрабіць за некалькі гадзін?**

**Паводле праекта Закона аб выбарах народных дэпутатаў БССР вылучаць кандыдатаў могуць сходы працоўных калектываў, або сходы па месцы жыхарства, калі колькасць іх удзельнікаў не менш 300 чалавек. Думаецца, было б правільна дазволіць правядзенне не аднаго, а многіх сходаў, агаварыўшы пры гэтым, што кандыдат у народныя дэпутаты рэгіструецца ў акруговай камісіі, калі агульная колькасць іх удзельнікаў гэтых сходаў не меншая, скажам, за пяцьсот чалавек. Успомнім з якой цяжкасцю арганізоўваліся перад прайшоўшымі выбарамі сходы жыхароў той або іншай акругі і як часта яны прызнаваліся непаўнамоцнымі з-за адсутнасці кворуму. Прапанаваны парадак вылучэння здымае гэтыя абмежаванні — праводзь сходы хоць у кожным ЖЭКу, толькі б агульная колькасць іх удзельнікаў была не меншая ўстаноўленай лічбы.**

І, нарэшце, пытанне пра выбары прэзідэнта рэспублікі. Яго, як вынікае з артыкулаў 97 і 99 законапраекта аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі БССР, Вярхоўны Савет павінен выбраць на першым сваім пасяджэнні. Але калі на З'ездзе народных дэпутатаў СССР амаль ні ў каго не было сумненняў адносна кандыдатуры Старшыні Вярхоўнага Савета, то ў рэспубліцы сітуацыя крыху іншая.

І мне здаецца, што на першым пасяджэнні Вярхоўнага Савета трэба было б значыць 5—6 кандыдатаў на пасаду Старшыні і яго намеснікаў і вынесці гэтыя кандыдатуры на ўсенароднае галасаванне. За 10—12 дзён з дапамогай тэлебачання прэтэндэнты змаглі б да кожнага выбаршчыка данесці сваю праграму, сваю канцэпцыю развіцця рэспублікі.

**В. ГАРБАЧОЎ,**
**навуковы супрацоўнік БДУ**
**імя У. І. Леніна.**

## З пошты «ЛіМа»

# • Санкцыя на вобыск?
# • Вярнуць тое, што адабрана
# • Тэлегалоснасць па-брэсцку

□

**Вось і да нас дакацілася...** Чытаю ў друку пераказ пастановы Савета Міністраў БССР, дзе пералічваюцца тавары, якія нельга здаваць у багаж і вывозіць з Беларусі чыгуначным, авіяцыйным і аўтамабільным транспартам. Амаль усё нельга.

Узнікае пытанне: ці мае пастанова Савета Міністраў сілу закона? Фактычна яна санкцыяніруе вобыск. А гэта ў прававой дзяржаве прэрагатыва пракурора. І вось уяўляю такую карціну. Садзяцца ў поезд (самалёт, асабісты аўтамабіль, аўтобус) грамадзяне з пакупкамі. І нейкія маладыя людзі пачынаюць пер態трасаць сумкі...

Мы гаворым пра стварэнне прававой дзяржавы, а што робім на справе?

**Ю. ЕРМАЛЮК,**
**журналіст.**

г. Мінск.

□

**У народзе кажуць:** каб дарэмна не пражыць, трэба абавязкова пабудаваць за жыццё дом. Сёлетнім летам студэнты з будаўнічага атрада «Зніч» Беларускага дзяржаўнага універсітэта пабудавалі ў нашым пасёлку два дамы. Акрамя таго, яны пабудавалі нашаму леспрамгасу лінію для раскражоўкі хлыстоў.

«Будуюць студэнты з Мінска»—так паважна гаварылі мы, летнерэчанцы, аб рабоце беларускіх хлопцаў. Бывала, час бліжэй да поўначы (а ночы ў Карэліі светлыя летам), але няма ўсё яшчэ нашых студэнтаў дома — працуюць! І будуюць жа, як паглядзім, сумленна; відаць, помняць, што жыць потым у іх дамах людзям! Вось з каго б браць прыклад летнерэчанскай моладзі! Бо пакуль жылі знічаўцы ў пасёлку, каля іх дома заўсёды было шмат нашых дзяцей — і ў тэніс, і ў валейбол і ў футбол гулялі са студэнтамі, і песні іх беларускія слухалі: паказалі студэнты ўсяму пасёлку канцэрт, ды яшчэ з'ездзілі ў Беламорск на фестываль будатрадаў. Ніколі такога не было, каб у прыезджых у Летнерэчанскі пасёлак студэнтаў часу на ўсё гэта хапала. А «Зніч» яшчэ і школе, і дзіцячаму саду нашаму дапамог. Па-добраму гэта.

Хачу выказаць словы падзякі камісару атрада, Валодзю Куліковічу: жыву я адна, а ён з хлопцамі, хоць ненадоўга, але памог забыцца на адзіноту.

У вайну праходзіла я ў складзе сапёрнай брыгады праз усю Беларусь. І яшчэ з тых саракавых нашу ў сэрцы добрую памяць аб беларускім народзе, а сёння бачу беларускіх унукаў таго ваеннага пакалення і спакойна-радасна робіцца на сэрцы.

Дзякуй вам, беларускія студэнты, сардэчны!

**В. КАРАЛЁВА,**
**ветэран вайны і працы.**

п. Летнерэчанскі КАССР.

□

**У газеце «Звязда»** ад 23.08.89 г. змешчаны артыкул А. Цікавенкі «Дзяржаўнасць мовы: прававы аспект». Там ёсць такое, з чым нельга пагадзіцца, нягледзячы на тое, што аўтар — кандыдат юрыдычных навук.

А. Цікавенка зыходзіць з таго, што наша мова свабодна і раўнапраўна мела магчымасць развівацца на працягу ўсіх 70-ці год. І таму становішча, у якім яна апынулася, лічыць заканамерным. Ён нават піша, што «суверэнная, па Канстытуцыі СССР, дзяржаўная ўлада БССР карысталася агульнасаюзнай, інтэрнацыянальнай — рускай мовай».

А ці так было на самай справе? Самі беларусы выракліся сваёй мовы, ці іх паступова вымушалі гэта рабіць, наўмысна звужаючы кола яе прымянення? Рэпрэсіравалі кіраўнікоў рэспублікі — беларусаў, прызначалі на іх месца іншых, рэпрэсіравалі шматлікую нацыянальную інтэлігенцыю. Дзеля чаго гэта рабілі? Для росквіту Беларусі, для развіцця нацыянальнай мовы? А ў пасляваенныя дзесяцігоддзі? Перавод на рускую мову навучання ВНУ і паступовая ліквідацыя навучання на беларускай мове ў школе. Перавод усіх дзяржаўных устаноў і арганізацый на рускамоўнае справаводства — гэта самі беларусы рабілі? Суверэнныя?

І вось цяпер аўтар лічыць, што неабходна, каб «устанаўленне яе заканадаўчага статуса ў адпаведным акце ўлічвала рэальнае месца і ролю данай мовы ў жыцці рэспублікі». Спачатку знішчылі мову беларусаў, а потым можна спасылацца на яе «рэальнае месца і ролю», на моўную сітуацыю, якая склалася ў Беларусі. Яна не склалася, яе стварылі сталінска-брэжнеўскія прыхвасні, і іх дзеянні і ў гэтай галіне трэба прызнаць злачыннымі. І таму гаворка павінна ісці не аб тым, каб улічыць рэальнасць, а каб адбудаваць тое, што было знішчана.

З другога боку, А. Цікавенка робіць нечаканую выснову з таго, што каля 82 працэнтаў беларусаў валодаюць рускай мовай: надаць рускай мове статус другой дзяржаўнай. Але не вызначае, каму і дзеля чаго гэта патрэбна. Беларусам, яўрэям, палякам? Але ж яны і так яе ведаюць і свабодна карыстаюцца.

Наданне статуса другой дзяржаўнай рускай мове патрэбна тым, хто не пакінуў яшчэ надзеі ажыццявіць зліццё нацый і народаў. А беларусаў (і ўкраінцаў таксама) яны бралі як доследны матэрыял. Пры тым становішчы, у якім сёння знаходзіцца беларуская мова, падобны крок быў бы апошнім цвіком, забітым у труну нашай нацыянальнасці.

Яшчэ адзін момант. Паважаны аўтар задае пытанне: «Ці павысіць такая заканадаўчая мера рэальны аўтарытэт беларускай мовы?» Аўтарытэт ёй надалі Ф. Скарына, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Купала, Я. Колас, В. Быкаў і інш. А заканадаўчы акт верне ёй тое, што было адабрана, — сферу ўжывання. І паслужыць развіццю нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. А з другімі нацыянальнасцямі, у межах рэспублікі, мы заўсёды ўжывёмся, маем шматвяковы вопыт.

**І. ВАЙЦЯХОВІЧ.**

г. Магілёў.

□

**Ёсць у Полацку** могілкі святога Ксаверыя (на беразе рэчкі Палата). Тут 7 студзеня 1964 года пахаваны знакаміты беларускі паэт Янка Журба. У 1970 годзе на магіле пастаўлена пліта. Але і пасля гэтага магіла выглядае вельмі непрывабна з-за безгустоўнай агароджы і невыразнага помніка, на якім, да нашага сораму, надпіс зроблены па-руску з невядомым акцэнтам: «Янко Журба. 1881—1964. Белорусский поэт».

Думаецца, Саюзу мастакоў БССР варта арганізаваць конкурс не праект помніка паэту. Пры неабходнасці можна сумесна з Саюзам пісьменнікаў рэспублікі стварыць фонд дапамогі.

**М. БАУТОВІЧ.**

г. Полацк.

□

**Лічу,** што наспела вострая неабходнасць адкрыць у рэспубліцы новы часопіс для дзяцей, які б займаўся экалагічным выхаваннем.

Некалькі дзесяткаў школьных лясніцтваў створана ў нашай рэспубліцы ў сельскай мясцовасці, у гарадах дзеці пра іх не маюць ніякага ўяўлення. Ды і вясковыя школьнікі з кожным годам набываюць ці не генныя рысы «экалагічнага пірацтва». Узяць тыя ж школьныя лясніцтвы, што ўжо існуюць. Яны трымаюцца на энтузіязме адзінак-педагогаў, шчырых прыхільнікаў роднай прыроды. Тут такі прынцып: ёсць энтузіяст у школе — ёсць лясніцтва, няма — ніхто пра гэтую справу і не падумае. Адным словам, у нас не існуе цэнтра, які б узначаліў, накіраваў такую работу. Каму, як не спецыялізаванаму дзіцячаму часопісу, зліць слабыя ручайкі ў магутную плынь? Тады з'явіцца магчымасць весці экалагічнае выхаванне не толькі ўшырыню (што можа фармальна зрабіць і Міністэрства народнай адукацыі), а і ўглыбіню: мэтанакіравана, праз спрэчкі і палеміку, паказ найлепшых прыкладаў, дасягненняў.

Падобныя выданні ёсць у іншых саюзных рэспубліках, не гаворачы ўжо пра замежныя краіны. У нас жа з 30-х гадоў, калі Зоська Верас выдавала часопісы «Пралеска» і «Заранка», анічога падобнага няма.

**У. АЛЯХНОВІЧ.**

г. Мінск.

□

**Набыў я значкі** гербаў горада Магілёва: адзін старадаўні, а другі, як зразумеў, сучасны.

Даруем распрацоўшчыкам, што надпіс «Магілёў» зроблены па-руску. Сапраўды, госць можа палічыць памылкай літару «а», не прачытаць дзесяцірычнае «і» і доўга дзівіцца на «у» кароткае. Мы ж заўсёды чамусьці арыентуемся на госця!

Чамусьці і старажытнаму, і «сучаснаму» гербам нададзена форма шыхтоў познегеральдычнага перыяду (спрошчаныя бакавыя краі). Але... першы з іх такой формы мець не можа, бо створаны ў 1661 годзе, а гэта, як вядома, перыяд раннегеральдычны.

Старажытны герб выкананы на значку ў двух колерах — тры вежы і рыцар золатам на чырвоным фоне. Невядома, дзе ўзялі чырвонае поле «друкары», бо паводле летапісаў поле гэта магло быць блакітным або белым (сярэбраным).

Рыцар у адчыненай браме, відаць, ляўша, бо трымае дзіду ў левай руцэ. Але мастак павінен быў ведаць, што вою належыць трымаць не дзіду, а меч, так пісалася ў тэксце прывілеі горада. На сярэдняй вежы адсутнічае істотнейшы элемент — круглая шыльда з выявай «Пагоні».

Цяпер пра сучасны герб горада. Горная і дольная часткі яго напалову чырвоныя і напалову зялёныя (па дыяганалі). Відаць, мастак, выконваючы «сацыяльны заказ», намагаўся гэтым паказаць сувязь з дзяржаўным сцягам БССР. Ды калі б ён быў больш кампетэнтны, то ведаў, што законы геральдыкі забараняюць спалучэнне чырвонага і зялёнага ў адным гербе. У чатырох сектарах чаго толькі не знойдзеш: вялікая колба, грузавік «БелАЗ», электрарухавік і нешта, што нагадвае шасцярню. Гэты набор вырабаў абстрактны, бо ўзяты, як кажуць, са столі, а ўвесь «геральдычны» опус не нясе абагульняючай ідэі.

Я, магчыма, не згадваў бы так падрабязна гэты выпадак, калі б не праглядвалася за ім сур'ёзная праблема. «Будзе герб горада!» — прачытаў неяк у газеце бадзёры заклік. І ўжо кінуліся мастакі-графікі ратаваць і берасцейцаў ад гістарычнага бяспамяцтва (быццам у Брэсце старажытнага адметнага герба няма!), выдаючы штучнае за натуральнае, аднадзённае за вечнае, сваё — за народнае.

Безумоўна, трэба пашыраць і дзяржаўную сімволіку, і нацыянальную, але не нявечыць апошнюю.

**У. САБЛІН.**

г. Гомель.

□

**Хачу падтрымаць** прапанову У. Люкевіча, выказаную ім у нататцы «Стварыць нацыянальны алімпійскі» («ЛіМ», 16 чэрвеня г.г.). Наша рэспубліка як дзяржаўнае ўтварэнне і паўнапраўны член ААН павінна быць членам Міжнароднага алімпійскага камітэта, ФІФА і УЕФА. Гэта, на маю думку, паспрыяе масавасці спорту ў рэспубліцы, што ў рэшце рэшт дасць магчымасць стварэння зборнай каманды рэспублікі для сусветных і алімпійскіх спаборніцтваў. Колькі новых стадыёнаў, плавальных басейнаў, палацаў спорту, каналаў для веславання, хакейных пляцовак, велатрэкаў з'явіцца ў малых, сярэдніх ды буйных гарадах Беларусі. Будзе шырыцца фізкультура і спорт — будзе больш здаровых людзей, менш будзе наркаманаў ды алкаголікаў.

Вядома, стварэнне нацыянальнага алімпійскага камітэта неразрыўна звязана з ажыццяўленнем канцэпцыі рэспубліканскага гаспадарчага разліку (патрэбны сродкі) і суверэнітэтам рэспублікі.

**У. СКРАБАТУН,**
**інжынер.**

г. Вентспілс,
Латвійская ССР.

□

**Нядаўна** ў нашай абласной газеце «Заря» з'явіўся артыкул намесніка старшыні абласнога камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні А. Гарая: кіраўнік вырашыў «гласно» павыхоўваць свайго падначаленага. «Ищи причину в себе», — мудра павучае ён рэдактара (вядомага паэта) А. Каско. А гэта значыць — працуй лепш, «капай» глыбей, падымай надзённыя балючыя праблемы — і тваім перадачам будзе адкрыта дарога ў эфір.

Староннямy воку гэты артыкул, напэўна, падаўся правільным, «высокамаральным». Ды і ніхто з нас не надумаўся б неяк рэагаваць на начальніцкую «пропаведзь», хаця, прызнацца, брэсцкую інтэлігенцыю яна шакіравала. Што ж, справы тэлевізійныя, няхай тэлевізійшчыкі і разбіраюцца самі.

Аднак неўзабаве нам непасрэдна давялося пераканацца ў тым, праз якое бюракратычнае сіта прапускаюцца матэрыялы на абласным тэлебачанні.

Карацей, 21 верасня нас запрасіла маладзёжная рэдакцыя для ўдзелу ў перадачы «Моладзь і перабудова». Тэма гаворкі была надзённай і хвалявала кожнага з нас — абмеркаванне праектаў законаў аб выбарах. На трактавай рэпетыцыі, за дзве гадзіны да эфіру, размясціўшыся ва ўтульных крэслах, мы натхнёна і шчыра дзяліліся сваімі думкамі, прапановамі. Галоўнае, што хвалявала нас, — каб новыя законы сталі больш дэмакратычнымі, каб на практыцы рэалізоўваўся лозунг «Уся ўлада Саветам!» Гутарку, якая нас захапіла, умела і тактоўна накіроўваў вядучы Ю. Печур.

Аднак, як высветлілася, мы дарма стараліся: разгублены вядучы, якога пасля тракта выклікаў той жа А. Гарай, паведаміў нам, што праграма здымаецца з эфіру. Прычына — наша «некампетэнтнасць» у пытаннях, па якіх нас запрасілі выказацца. Вось так, як кажуць, проста ў лоб. Хоць, прызнацца, мы выказвалі не толькі свае ўласныя меркаванні, а ў значнай ступені і прапановы тых калектываў, дзе мы працуем. Кожны з нас прыйшоў з пакетам такіх прапаноў, выпрацаваных у час калектыўных абмеркаванняў, і даволі пераканаўча, як нам думаецца, абгрунтаваных. А напярэдадні двое з нас удзельнічалі ў агульнагарадскім сходзе па абмеркаванні праектаў законаў аб выбарах. Некаторыя з прапаноў, выказаныя ў нашых выступленнях, былі ўнесены ў пастанову гэтага сходу.

Разумеючы сітуацыю, у якую трапіў наш вядучы, мы гатовы былі сустрэцца з кіраўніцтвам, выслухаць заўвагі і, магчыма, прыйсці да агульнай думкі. Тым больш, што час для пошуку кампрамісаў быў. Аднак з людзьмі, якія адпрасіліся з працы, выказванняў якіх у эфіры чакалі калегі, нават не сталі размаўляць. Не кажучы ўжо пра элементарнае прабачэнне.

Не ведаем, ці часта такое здараецца на Брэсцкім тэлебачанні, але нешта з цяжкасцю верыцца А. Гараю, які ў сваім артыкуле запэўніў: усё, што рыхтуецца тэлежурналістамі па хвалюючых праблемах жыцця, выходзіць на экран.

21 верасня замест праграмы «Моладзь і перабудова» на экран выйшаў кінафільм «Белая Аўстралія». Што ж, магчыма кіраўніцтва Брэсцкага тэлебачання праблемы далёкай белай Аўстраліі хвалююць больш, чым блізкія для нас праблемы Белай Русі.

**І. БРУХАН, сакратар гаркома ЛКСМБ, А. ЯШЧУК, рабочы рачнога порта, Ю. СІМАНАЎ, інжынер-канструктар.**

г. Брэст.

# «ПРЫНЦЫПЫ» І ФАКТЫ

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ**

**Вытокі дагматычнага падыходу да гісторыі Беларусі феадальнага перыяду**

ШМАТ ХТО ставіцца крытычна да гістарычных прац па феадальнаму перыяду, якія выходзяць у галоўных навуковых установах рэспублікі, гэта значыць з Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР і Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Такія адносіны шырокіх колаў грамадскасці да афіцыйных гістарыёграфаў сведчаць пра наяўнасць пэўнага крызісу ў гістарычнай навуцы. Частыя і адвольныя змяненні ацэнак гістарычных асоб і падзей выклікалі і выклікаюць сумненні ў тым, ці з'яўляецца яна наогул навукай, калі яе можна паварочваць і так і гэтак.

**Да беларускай гістарычнай навукі непасрэдна адносяцца словы М. С. Гарбачова: «З гісторыі і грамадазнаўства адышлі жывыя дыскусія і творчая думка, а аўтарытарныя ацэнкі і меркаванні сталі бясспрэчнымі ісцінамі, падлеглымі толькі каментаванню». Нават на лепшых гістарычных працах аб перыядзе феадалізму, якія выдаюцца ў рэспубліцы, можна заўважыць шоры разнастайных абмежаванняў, забарон, замоўчванняў.**

**Забароны ў гістарычнай навуцы прывялі да з'яўлення своеасаблівага тыпу гісторыка, які страціў зваротную сувязь з чытачом, арыентаваны толькі на вышэйшую інстанцыю, таму амаль зусім пазбаўлены пачуцця адказнасці за вынікі сваіх прац. Такому чалавеку ўсё роўна, ці будуць чытаць ягоныя працы і давяраць ім. Галоўнае, каб начальства было задаволена — і высокае, і малое, непасрэднае. Своеасаблівы выпуск прадукцыі дзеля выпуску і дзеля справаздач.**

Безумоўна, не ўся гістарычная навука ішла ў адным рэчышчы. Аднак да асноўных прац па палітычнай гісторыі краю феадальнага перыяду нельга не прад'явіць сур'ёзныя прэтэнзіі. Галоўнае гэта — адыход ад дыялектычнага метаду ў бок дагматызму, што адлюстравалася не толькі ў навуковых працах, але і ў падручніках па гісторыі БССР для сярэдняй школы і для ВНУ.

АДНОЙ З КАНКРЭТНЫХ прычын такога становішча з'яўляецца занядбанне гісторыкамі тэорыі гістарычнай навукі, у тым ліку тэорыі і методыкі гістарыяграфіі і крыніцазнаўства. Гістарыяграфія зведзена толькі да пераліку прац у рэцэнзійным стылі з мінімумам аналізу, да таго ж часта з некрытычным выкарыстаннем рэцэнзій пяцідзесяці- і шасцідзесяцігадовай даўнасці.

На працягу дзесяцігоддзяў замоўчваўся большасцю гісторыкаў Беларусі шэраг твораў К. Маркса і Ф. Энгельса. Гэтыя творы не цытуюцца, пра іх не гаворыцца ў падручніках па гісторыі БССР. Асновай такіх адносін да некаторых прац заснавальнікаў марксізму з'яўляюцца даўнейшыя ідэалагічныя ўстаноўкі. Сталін у свой час сцвярджаў, што прынцыпы важнейшыя за факты, таму гістарычныя факты, калі гэта нязручна, трэба абмінаць. Ён увёў ва ўжытак дагматычныя стэрэатыпы мыслення, якія дагэтуль яшчэ далёка не выкаранены. Гісторыю трэба было пісаць «як належыць», выкідваючы з яе праўдзівыя факты.

І цяпер шматлікія гісторыкі Беларусі ўпарта разглядаюць палітычную гісторыю краю XVIII—XIX стст. і ранейшага часу без уліку вядомых прац К. Маркса, Ф. Энгельса, У. Леніна, але згодна з канцэпцыяй Сталіна, выказанай у ягоным лісце «О статье Энгельса «Внешняя политика русского царизма» (у кнізе «К изучению истории».— Сборник. М., 1946). Там, паводле ацэнкі аўтараў прадмовы да 22-га тома твораў К. Маркса і Ф. Энгельса, «мае месца парушэнне прынцыпу гістарызму. Да ацэнкі гэтага артыкула Энгельса Сталін падышоў з крытэрыем, які адносіцца да міжнароднай сітуацыі больш позняга часу, дапусціўшы змешванне абставін пачатку 90-х гадоў XIX стагоддзя (калі артыкул Ф. Энгельса быў напісаны. — **А. Г.**) з тымі, якія склаліся ў эпоху імперыялізму». Сталін забараніў гэты твор таму, што ў ім выкрывалася агрэсіўная палітыка рускага царызму. А пры Сталіне ў асяроддзі гісторыкаў усе знешнепалітычныя акцыі царызму апраўдваліся з дзяржаўна-цэнтралісцкага пункту гледжання, апраўдваліся і папулярызаваліся знешнепалітычныя дзеянні не толькі Івана Грознага і Пятра І, але і ўсіх іх цароў-пераемнікаў.

**А У. І. Ленін высока ацэньваў твор Ф. Энгельса «Знешняя палітыка рускага царызму», адносячы яго да найбольш важных твораў. Тым не менш, гэтая праца Ф. Энгельса і цяпер не карыстаецца папулярнасцю ў нашых гісторыкаў.**

**Тое ж самае можна сказаць і пра рукапісы К. Маркса 1863—1864 гадоў па польскаму пытанню, якія выкарыстоўваліся ў час падрыхтоўкі да выступлення на пасяджэннях Генеральнага Савета І Інтэрнацыянала і да выдання брашуры. Гэтыя матэрыялы апублікаваны ў XIV томе «Архіва Маркса і Энгельса» (М., 1973) пад назвай «Польшча, Прусія і Расія». Як заўсёды, нават і ў нататках для практычнай працы, К. Маркс зрабіў тут гістарычны агляд і навуковы аналіз праблемы. У цэнтры яго ўвагі — прычыны палітычнага заняпаду Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі і трох падзелаў гэтай дзяржавы, праведзеных урадамі Расіі, Прусіі і Аўстрыі ў 1772, 1793 і 1795 гг., у выніку чаго Рэч Паспалітая перастала існаваць.**

НАОГУЛ схема палітычнай гісторыі ў феадальны перыяд, якая склалася за апошнія дзесяцігоддзі ў беларускай гістарыяграфіі, мала змянілася з таго часу, калі ў восьмым нумары часопіса «Бальшэвік Беларусі» за 1948 год былі апублікаваны «Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР (частка І)» (калектыў аўтараў на чале з К. І. Шабунем). Значная частка гэтага тэксту прысвечана перыяду феадалізму. Характэрнымі з'яўляюцца раздзелы гэтай часткі: 1. Дафеадальны перыяд. Кіеўская дзяржава. 2. Перыяд феадальнай раздробленасці. 3. Завяршэнне працэсу фарміравання беларускага народа. Беларусь пад уладай літоўскіх і польскіх захопнікаў (XIV—XVIII стагоддзі). 4. Уваходжанне Беларусі ў склад рускай дзяржавы. 5. Разлажэнне феадальных прыгонніцкіх і зараджэнне капіталістычных адносін у першай палавіне XIX века. Гэтыя «Тэзісы» былі ўзяты за аснову абагульняючай кнігі па гісторыі Беларусі. Паводле такой структуры і прыкладна з такімі ж загалоўкамі выдаваўся І том «Гісторыі Беларускай ССР» выданняў 1954 і 1961 гг. і з некаторымі змяненнямі і выданне 1972 г., а таксама падручнік для школы.

У «Тэзісах...», якія вытрыманы ў баявым і нават ваяўнічым стылі, шмат увагі ўдзялялася барацьбе з беларускімі нацыяналістамі паводле прынцыпу: «З ворагам не дыскутуюць, ворага б'юць». Таму замест аргументацыі аўтары прытрымліваліся стылю лаянкі з эпітэтамі «вымыслы», «фальсіфікатары гісторыі Беларусі», «Ілжывыя вымыслы ад пачатку да канца», «бессаромнае скажэнне гістарычнай рэчаіснасці», «здзек над беларускім народам і яго гісторыяй» і г. д. Увесь накірунак «Тэзісаў...» меў не навуковы, а палітычны характар. Пры гэтым у тэксце яшчэ захоўваліся прамыя выпады супраць «панскай Польшчы» (гэта ў XVI—XVIII стст.!) і агрэсіўнай Літвы, якая захапіла Беларусь і працягвала агрэсію супраць Маскоўскага Вялікага княства. На такую пазіцыю аўтараў «Тэзісаў» уплывала знешняя палітыка Сталіна ў 30-х гадах, калі Польшча і Літва былі буржуазнымі, а значыць, варожымі дзяржавамі, і гісторыкам трэба было даказаць спрадвечную варожасць гэтых дзяржаў да беларускага і рускага народаў. У выкрыцці варожых «вымыслаў» аўтары не лічыліся з гістарыяграфіяй. Так, напрыклад, яны заяўлялі: «Сцвярджэнне беларускіх нацыяналістаў аб тым, што насельніцтва заходніх абласцей Русі быццам бы добраахвотна прызнала над сабой уладу літоўскіх князёў і бачыла ў іх абаронцаў ад татарскай няволі, не вытрымлівае гістарычнай крытыкі». Аднак пра гэта гаварылі яшчэ дарэвалюцыйныя рускія дваранскія і буржуазныя гісторыкі, а ў канцы XIX ст. пра гэта сказаў Ф. Энгельс: «У той час, калі Вялікаросія трапіла пад мангольскі прыгнёт, Беларусь і Маларосія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званага Літоўскага княства. Гэтае княства пазней добраахвотна аб'ядналася з Польшчаю». Аўтары ж «Тэзісаў» мелі свой погляд: «У 1569 годзе польскія паны дабіліся заключэння Люблінскай уніі, па якой Літоўскае княства, а значыцца, і Беларусь былі ўключаны ў склад польскай Рэчы Паспалітай» і далей «трапілі пад уладу панскай Польшчы». Насуперак выказванням К. Маркса і Ф. Энгельса, якія рэзка крытыкавалі падзелы Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст., аўтары «Тэзісаў» станоўча ацэньвалі гэтыя падзелы. Тут, як і ва ўсёй тагачаснай савецкай гістарыяграфіі, трэба было ўскосна апраўдаць ліквідацыю Польскай дзяржавы ў 1939 г., якая паводле слоў старшыні Саўнаркома і наркома замежных спраў В. М. Молатава з'яўлялася «пачварным дзецішчам Версальскага дагавору» і была ліквідавана «ўдарам германскай арміі з аднаго боку і Чырвонай Арміі з другога».

Трэба сказаць, што аўтары «Тэзісаў» абапіраліся на кнігу І. Ф. Лочмеля «Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов» (М., 1940). У гэтай кнізе, якая была выдадзена адразу пасля паражэння буржуазнай Польшчы ў германа-польскай вайне 1939 года, былі дапушчаны вульгарызатарскія памылкі і схематызм. Яны выявіліся ў антыпольскіх выказваннях (з нацыянальнага пункту гледжання) і ў пэўным капіраванні дарэвалюцыйнай схемы адлюстравання нацыянальна-рэлігійных адносін, г. зн. абарона пазіцый праваслаўнай царквы ў феадальны перыяд як нацыянальнай царквы на Беларусі.

**1. Лочмель у згаданай кнізе карыстаецца марксісцкай фразеалогіяй, але згодна з вульгарна-сацыялагічнай схемай гісторыі Беларусі, якую ўвёў В. Шчарбакоў у сярэдзіне 30-х гадоў (у кнігах «Нарысы гісторыі Беларусі», ч. 1 і «Сялянскі рух і казацтва Беларусі ў эпоху феадалізму») замяніў у старой дарэвалюцыйнай схеме барацьбу супраць польскіх паноў і каталіцкай царквы барацьбой супраць феадалаў, а «праваслаўных рускіх людзей» (г. зн. беларусаў) на «працоўныя масы». З-за гэтай схемы, якая абапіралася на гандлёвы капітал і класавую барацьбу (прычым нават рабаванне на дарогах гісторык лічыў класавай барацьбой), В. Шчарбакоў адмоўна ставіўся да беларускай культуры феадальнага перыяду. Выкрываючы савецкіх беларускіх гісторыкаў, якіх ён называў нацдэмамі, В. Шчарбакоў даводзіў: «Нацыянал-дэмакраты ідэалізавалі Скарыну і іншых падобных да яго. Вядома, Скарына перакладаў біблii і часасловы, друкаваў іх. Але каму служылі яны? Чые інтарэсы абаранялі гэтыя рэлігійныя творы?.. Скарына распаўсюджваннем рэлігійных кніг на роднай мове садзейнічаў развіццю агульнанацыянальнага рынку, які меў патрэбу ў адзінай мове, зразумелай для ўсіх. Але гэта рабіў ён не ў інтарэсах працоўных мас, аб іх ён менш за ўсё думаў, а ў інтарэсах купецтва, якое разам з панамі і шляхтай эксплуатавала гэтыя масы».**

НЕ БАЗІРУЮЧЫСЯ на спецыяльных даследаваннях і не вывучыўшы шматлікага дакументальнага матэрыялу, беларускія гісторыкі ў 40-х першай палове 50-х гадоў стварылі сваю канцэпцыю гісторыі Беларусі феадальнага перыяду, часткова заснаваную на меркаваннях і міфах. Да гэтых апошніх адносіліся: разгляд Вялікага княства Літоўскага як толькі дзяржавы літоўскіх феадалаў, захоп літоўскімі феадаламі беларускіх зямель, спрадвечная цяга і нават барацьба працоўнага насельніцтва Беларусі за ўз'яднанне з Маскоўскім Вялікім княствам, а потым і з Рускім царствам. Пры гэтым уласцівыя перыяду феадалізму звычайныя феадальныя мяцяжы ўзнімаліся да ўзроўню нацыянальна-вызваленчага руху супраць літоўскіх феадалаў, — як, напрыклад, змова князёў Алелькавіча, Бельскага і Гальшанскага ў 1481 г. супраць вялікага князя Казіміра, хаця тры галоўныя змоўшчыкі былі літоўскага паходжання, а два з іх былі членамі дынастыі Альгердавічаў. Тое ж можна сказаць і пра паўстанне князя Міхаіла Глінскага ў 1508 г., які быў да таго ж католікам.

У гэтым жа плане разглядаецца і рэлігійнае пытанне: праваслаўная царква — гэта свая, родная, каталіцкая — чужая, агрэсіўная, прыгнятальніца. У сувязі з гэтым значна перабольшваўся рэлігійны прыгнёт і рэлігійная барацьба, якой надаваўся ранг нацыянальна-вызваленчай. Пры гэтым гісторыкі адыходзілі ад класавага разгляду такога складанага пытання. Як ужо нагадвалася, Рэч Паспалітая разглядалася як польская дзяржава, а не федэрацыя Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Ухваляліся і падзелы Рэчы Паспалітай, зноў-такі з дзяржаўна-цэнтралісцкага пункту гледжання на знешнюю палітыку рускага царызму. У. І. Ленін так сказаў пра трох манархаў, што падзялілі Рэч Паспалітую: «Курляндыю і Польшчу яны разам дзялілі, гэтыя тры каранаваных разбойнікі. Яны дзялілі сто гадоў, яны рвалі па жывому мясу, і рускі разбойнік урваў болей, таму што быў тады мацнейшы».

Пазней некаторыя карэктывы ў канцэпцыю «Тэзісаў» былі ўнесены. Так, тэрмін «захоп зямель Заходняй Русі літоўскімі феадаламі» ў І том 5-томнай «Гісторыі Беларускай ССР» (1972 г.) быў заменены на больш дыпламатычную фармуліроўку: «Шляхі ўключэння асобных заходнерускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага былі рознымі». Увогуле ж канцэпцыя не змянілася, асабліва ў падручніках і асобных манаграфіях і артыкулах.

Але самае цікавае ў наступным. Уважлівы разгляд дваранскай або дваранска-клерыкальнай гістарыяграфіі Паўночна-Заходняга краю (як называліся Беларусь і Літва ў афіцыйных дакументах мінулага стагоддзя) дае магчымасць прасачыць больш глыбокія вытокі пазнейшага дагматычнага падыходу да гісторыі Беларусі феадальнага перыяду. Цікавасць рускай дваранскай гістарыяграфіі другой паловы XIX ст. да гэтага пытання асабліва ўзрасла ў сувязі з падаўленнем паўстання 1863 г. на Беларусі і Літве і палітыкай генерал-губернатара краю М. Мураўёва-вешальніка. Тагачасныя дваранскія гісторыкі, пачынаючы з прафесара Пецярбургскай духоўнай акадэміі М. Каяловіча (ураджэнца Беларусі) даказвалі, што Беларусь была «издревле истинно русским краем». Гэтыя гісторыкі асноўным злом для Беларусі лічылі каталіцкую царкву і палякаў, якія намагаліся адарваць рускае насельніцтва (г. зн. беларусаў) ад Маскоўскай дзяржавы, да якой беларусы імкнуліся, а народ аб'ядноўвала ў гэтай вызваленчай нацыянальна-рэлігійнай барацьбе мясцовая руская (г. зн. беларуская) арыстакратыя. Такі шавіністычны і вялікадзяржаўны падыход да гісторыі краю быў у той ці іншай ступені ўласцівы і іншым прадстаўнікам дваранска-клерыкальнага напрамку — славянафілу І. Бяляеву, А. Папкову і інш. Але ў адрозненне ад пазнейшых, беларускіх гісторыкаў, М. Каяловіч ідэалізаваў жыццё заходнебеларускага народа ў Вялікім княстве Літоўскім да Люблінскай уніі 1569 г., усхваляў далучэнне Беларусі да Расіі ў канцы XVIII ст. як акт, які дазволіў потым далучыць да праваслаўя ў 1794 г. больш трох мільёнаў уніятаў. Праўда, М. Каяловіч не піша, што калі цар Павел І скасаваў гэты ўказ, то 90 працэнтаў уніятаў вярнулася да сваёй рэлігіі. Усхваляў ён і, паводле яго слоў, «мудрую палітыку рускіх цароў і імператараў у адносінах да заходняй Расіі». А таксама гаварыў пра быццам бы народнае і рэлігійнае адзінства ў Беларусі, на якое нібыта абапіраўся рускі ўрад. Увогуле М. Каяловіч спецыяльна падбіраў такі дакументальны матэрыял, каб паказаць Заходнюю Расію ахвярай польскай каталіцкай экспансіі, царскую Расію і праваслаўную царкву выратавальніцай Заходняй Расіі. Гэты гісторык фактычна даў пачатак манархічнаму клерыкальна-дваранскаму напрамку ў гістарыяграфіі Беларусі, і ў метадалогіі, і ў методыцы.

**З іншых прац гэтага перыяду трэба згадаць працы П. Бранцава, рускага гісторыка-манархіста, які выкладаў гісторыю і геаграфію ў Віленскім рэальным вучылішчы. З дваранска-клерыкальных пазіцый напісана ягоная кніга «Гісторыя Літоўскай дзяржавы ад старажытных часоў» (1889), у якой ён разглядаў гісторыю Паўночна-Заходняга краю са старажытных часоў ажно да М. Мураўёва, а таксама яе скарочаны варыянт — «Нарыс старажытнай Літвы і Заходняй Расіі» (1891). П. Бранцаў падкрэсліў, што калі «беларускі і маларускі народы, як і ўсе славянскія народы, адзначаліся непастаянствам, няцвёрдасцю ў перакананнях і палітычнай нетактоўнасцю, то,**

(Працяг на стар. 6).



О. МІЦКЕВІЧУТЭ, Э. ЛЕГУТЭ, (Літва) і В. АДАМЧЫК.
Фота Ул. КРУКА.

газеты, карэктарам у галоўнай рэдакцыі энцыклапедыі, рэдактарам рэдакцыі мастацкай перакладчыцкай літаратуры ў выдавецтве «Ліесма» («Полымя»). Перакладае з рускай, украінскай, польскай, літоўскай, англійскай моў. Але...

**— Беларуская літаратура — — мая асаблівая любоў. Да 50-годдзя першага выдання выйшаў «Салавей» З. Бядулі з маім пасляслоўем. Падрыхтаваў своеасаблівы падарунак латышскаму чытачу — «На імперыялістычнай вайне» і «Віленскія камунары» М. Гарэцкага. У 1921 годзе Максім Гарэцкі жыў у Латвіі, чытаў лекцыі на беларускіх настаўніцкіх курсах у Даўгаўпілсе. У Латвіі ён напісаў і некалькі драматычных абразкоў.**

**Затым былі «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава. Да стагоддзя з дня нараджэння Я. Коласа пераклаў трылогію «На ростанях». Выдадзена «Дзікае паляванне караля Стаха» і гатовая —у шуфлядзе — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» У. Караткевіча. Могуць падумаць, што мае зацікаўленні надта палярныя: класіка і новыя творы беларускай літаратуры. Што зробіш: трэба навёрстваць, зрабіць тое, што не паспелі ці не змаглі зрабіць нашы перакладчыкі раней. Галоўнае — каб не прайсці міма! Азнаямленне латышскага чытача з класікай беларускай літаратуры пакажа яму, на чым стаіць сённяшняя літаратура брацкага народа, дзе яе вытокі, карэнні, у чым яна дасягнула ці пераўзышла ранейшыя нацыянальныя культурныя здабыткі. Увогуле, мне да 2000 года работы па прапагандзе беларускай кнігі хопіць, — усміхаецца Талрыд Руліс.**

Эскізна называю яшчэ адну асаблівасць беларускай школы перакладу ў Латвіі, адроджаную Т. Рулісам. Да яго перакладалі ў асноўным людзі, паходжаннем сваім звязаныя з Латгале, з латышска-беларускага сумежжа. У каго беларускае слова было, як кажуць, на слыху (нездарма слова «сабрыс» перакладаецца, як «сусед»). Нашу песню, нашу мову чулі ў сваіх ваколіцах жывою Еранім Стулпан і Юлій Ванаг, Андрыс Веян і Язэп Османіс... Талрыд Руліс, як, напрыклад, і Мірдза Абала, прышчаплялі беларускую мову нанова. Зараз Талрыд сваім бездакорным валоданнем мовай Коласа і Чорнага, Гарэцкага і Караткевіча можа прысароміць таго-сяго нашага местачкоўца або выпускніка журфака.

Талрыд Руліс як перакладчык — чалавек асаблівы. І ў першую чаргу таму, што ён — максіміліст. Такая рыса характару вызначае ахвярнага, апантанага работніка, які не ідзе на кампрамісы, не дазваляе сабе быць флюгерам надзённай выгоды.

І вось галоўнае, надзённае запытанне. Беларусь мае Талрыда Руліса. А ці мае Талрыд Руліс Беларусь? Што робіць Саюз пісьменнікаў для падтрымкі такіх самаадданых і такіх перспектыўных перакладчыкаў? Ці курыруе іх, а прасцей — ці дапамагае набыць літаратуру, даведачнікі, слоўнікі, ці запросіць падарожнічаць, панаглядзецца, панадыхацца водарам бароў, пушчаў, песняў, жывога народнага вымаўлення? Хіба 10 дзён у «Іслачы» кампенсуюць наш доўг?

У «Братэрстве-88» Т. Руліс робіць такі папрок: «Прыкра і тое, што на Беларусі з латышскай літаратуры амаль нічога не выдаецца, не надта дбаюць пра прэстыж нашай літаратуры». Тут можна паспрачацца з Рулісам. І ўсё ж...

Пад час нядаўняга наведання Рыгі я аглядзеў выстаўку «Беларусы ў Латвіі». Сярод кніг нашых аўтараў, перакладзеных на латышскую мову ў астатні час, ляжала на вітрыне навінка — аповесць «Восень пасярод вясны» Адама Мальдзіса. Самая «свежая» работа Талрыда Руліса. А налета яму споўніцца ўсяго толькі 50. Як ён сам дэкларуе: «Перакладчык — расліна шматгадовая». Будзем спадзявацца, што яму і нам хопіць узаемнай любові яшчэ на многія леты.

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**намеснік старшыні бюро секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей СП БССР.**

**Аляксандр ПУХАТЫ**

## *Маналог зямлі*

Планета я, ад сонца адарвалася.
Тысячагоддзе я ў агні была.
Жыццё на мне — адзінае! — стваралася.
Дыханне чалавеку я дала.

Стварыў мяне не бог. Не падалося.
Трымаюся, ды не на трох кітах.
Мой светлы дзень залежыць не ад лёсу.
Не з гліны я. Нязведаны мой шлях.

І сонца не шкадуе мне праменняў.
А месяц круглы, як свяцільнік мой.
Ён на мяне глядзіць штоноч нязменна
Вачыма зор — агністасцю сваёй.

Я жоўтая, і шэрая, і чорная.
Мільёны год мне, але ж я ў красе.
Дзяцей не злічыш (дарагое кожнае!),
І падуладны мне яны ўсе.

Сваіх дзяцей люблю, не выдзяляю,
Дзялю пароўну ласку ім сваю.
І як з малымі з імі не гуляю,
Жыццё дарма нікому не даю.

Цяжкая ў мяне ноша, не прарокава,
Але цяжэй яшчэ таму мне жыць,
Што дзеці мяне любяць неаднолькава,
Таму і сэрца так за іх баліць.

Пароўну ўсім даю свой хлеб надзённы,
Хто працу любіць шчодраю душой.
І аднаго прашу, каб дзеці родныя
Любілі і цанілі клопат мой.

Баліць, калі мяне хто папракае,
А бачу, зло, каварства, здраду, здзек
Сярод людзей. Далёка ім да раю.
І гэта мяне мучае спрадвек.

Я патрабую ад дзяцей шчаслівых,
Не прыніжайце вы Зямлі старой.
І не давайце клятваў мне хлуслівых,
І марна не кляніцеся вы мной!

## *Салдацкія боты*

Вам, кірзавым, не да спачыну.
Вайна ацаніла ваш крок.
Ішлі па гарах, па далінах,
Мясілі і снег і пясок.

Пазналіся з доляй цяжкою:
Хадзіла зямля хадуном.
Улетку вы пахлі травою,
Зімою — пажарам, агнём.

Вы мерзлі. Салдацкія ногі
Калелі ў марозныя дні.
І падалі вы ад знямогі.
Як свечкі, гарэлі ў агні.

Не раз наступалі падкоўкі
На міны. Сляпіла зямля.
З якога металу іголкі
Сшывалі вас, боты, пасля.

І радасць, і гора дзялілі
З салдатам, пакуль ён жывы...
У дзверы рэйхстага ў Берліне
Абцасам пастукалі вы!

## *Дуб*

Яму равесніка не знойдзе даль.
Дня нараджэння невядома дата.
Яго галіны-рукі, нібы сталь,
А тулава, як той бурдзюк напяты.

Карэнне ўглыб зямлі пайшло. Змагчы
Такога нельга. Марная трывога.
Дзяцей, унукаў, праўнукаў злічы!
Іх—як у майго дзеда векавога.

Вякамі ўдаль з пагорка ён глядзіць
Папераджальна, горда, незалежна.
Ён бачыў часу боль (яшчэ баліць!),
Нібы ў гарах старажавая вежа.

Асецін, тваю ён бачыў кроў, —
Тваіх сыноў, — лілася тут калісьці.
Сляды тых бітваў з даўнішніх вякоў
На целе зрубцаваным запякліся.

Жывой скалой узняўся над былым.
Яму не страшна буры завыванне.
І пераходзяць з веку ў век аб ім
Бяссмертныя легенды і паданні.

## *Крыніцы Асецііі*

Я вас, крыштальных і зіхоткіх,
Душэўным саграю святлом.
Цалуе ветрык вас пяшчотна,
Салодка пахнеце сянцом.

Ля вас сцяжынка абаўецца.
Журчанне ваша — спеў без слоў.
Вы супакойваеце сэрца
Таму, хто доўгі шлях прайшоў.

Вас сонца з вышыні прыкмеціць,
Праменнем высвеціць наскрозь.
А ноччу вам гарэза-месяц
Нібы падміргвае з нябёс.

Вы радасць, смех свой распляскалі.
Аб чым ваш спеў? — Скажыце мне.
Каб вы ў радках маіх журчалі
Аб горнай, мілай старане!

З асецінскай. Пераклаў
Юрась СВІРКА.

*Водгукі, палеміка*

# Жыццё пражыць...

**Ідзе перабудова, усталёўваецца публічнасць. У друку часта сустракаем матэрыялы, якія раскрываюць сутнасць, вытокі і прычыны розных негатыўных з'яў у грамадска-палітычным жыцці, паказваюць канкрэтных ініцыятараў і выканаўцаў супрацьзаконных дзеянняў і іх ахвяр. Засталіся ў памяці мінулагоднія публікацыі ў газеце «Звязда», у якіх закранаецца грамадская пазіцыя літаратуразнаўца і крытыка В. Барысенкі. Нядаўна пра іх нагадаў Віктар Каваленка ў лісце «Дзе віна, дзе бяда...» у рэдакцыю штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» (1 верасня г. г.).**

**Не маю намеру ўключацца ў журналісцкае і навуковае расследаванне дзейнасці акадэміка В. Барысенкі, якое вядуць карэспандэнт А. Лукашук і дырэктар Інстытута літаратуры АН БССР В. Каваленка. Не стаўлю пад сумненне галоўны вывад ліста В. Каваленкі: «І ўсё ж тое станоўчае і карыснае, што было зроблена В. Барысенкам для развіцця беларускай літаратуры, беларускага літаратуразнаўства і крытыкі, не павінна быць забыта ці закрэслена, нават калі мы пры гэтым справядліва асуджаем яго памылкі».**

**Можна зразумець аўтара ліста, які імкнецца хоць бы часткова адвесці абвінавачанні, выстаўленыя В. Барысенку ў газетных публікацыях. Мэта сапраўды гуманная, прадыктаваная не карыслівымі разлікамі, а маральным абавязкам перад памяццю старэйшага калегі.**

**Насцярожваюць спосаб доказу, логіка выкладу. З пунктуальнасцю адваката В. Каваленка прасочвае акалічнасці «справы», каб зрабіць заключэнне, што неаб'ектыўная рэцэнзія В. Барысенкі на хрэстаматыю «Чырвоная змена» — не асноўная прычына рэпрэсій супраць яе аўтараў І. Мазура і М. Калінічэнкі. Асаблівы націск робіцца на тое, што В. Барысенка не першы даў несправядлівую ацэнку гэтай кнізе: «...В. Барысенка быў, прынамсі, трэцяй, а не першай асобай у шэрагу ганіцеляў аўтараў хрэстаматыі «Чырвоная змена». Вось як прафесійна, у стылі крымінальнага кодэксу, фармулюе В. Каваленка адзін з важкіх аргументаў невінаватасці В. Барысенкі ў «трагічным лёсе канкрэтных людзей»: «Прынамсі, адкрытых заклікаў да расправы з кім-небудзь у рэцэнзіі няма». Ну і што? У 30-я гады даволі было «паставіць» кампрамат, а ўжо адпаведныя органы ўмелі самі і «заклікаць», і «расправіцца».**

**Наогул, у лісце В. Каваленкі праходзіць думка, што віна нібыта ўжо і не віна, калі яна агульная, растворанная ў масе, схаваная ў ёй. Тым больш, калі гэтая віна — усяго толькі вынік рэалізацыі афіцыйнай устаноўкі. Такое меркаванне выкарыстоўваецца як апраўдальны момант: «...погляды і ацэнкі, выказаныя ў закрытай рэцэнзіі В. Барысенкі, былі агульнапрынятымі ў друку 30-х гадоў і адлюстроўвалі афіцыйную лінію савецкіх і партыйных органаў». Адсюль: навошта дакараць В. Барысенку ў нападках на Д. Прышчэпава і А. Баліцкага, калі тыя «былі ўжо даўно арыштаваны» і іх «прозвішчы хаяліся ва ўсім друку». Дык — бі ляжачага! Ці сказаць інакш: працуй на рэпрэсіўную машыну.**

**Сёння мы ведаем, што значыла такая агульнапрынятасць, аднагалоснасць у 30-я гады. Але ж і ў нясталінскі, нядаўні час лёгка знаходзіліся ахвотнікі ад «калектыву», «грамадскасці», якія на каманду або толькі намёк зверху ці збоку дружным падыманнем рукі вырашалі чалавечы лёс...**

**В. Каваленка піша, што ў эпоху рэпрэсій «немагчымай стала і сумленная ацэнка сучасных падзей». Гэта не так. І тады былі Людзі. Дзякуючы ім, іх мужным паводзінам, іх праўдзівым ацэнкам і сведчанням, цяпер мы можам з большай дакладнасцю ўявіць той страшэнны перыяд нашай гісторыі.**

**Для абароны В. Барысенкі аўтар ліста звяртаецца да літаратурных аўтарытэтаў—залучае выказванне Б. Сарнова: «У рэшце рэшт важна не тое, якім ты быў сорак, ці трыццаць, ці дваццаць, і нават дзесяць гадоў назад. Важна, які ты цяпер». Мусіць жа, не. Важна і тое, каб праз 40—30—20—10 гадоў чалавек мог азірнуцца на свае словы і ўчынкі з чыстым сумленнем.**

**Аўтар ліста ў рэдакцыю «ЛіМа» сведчыць, што В. Барысенка «з вялікай радасцю ўспрыняў ідэі XX з'езда КПСС, шчыра вітаў усе перамены ў эканамічным, сацыяльным і культурным жыцці краіны і — што самае галоўнае — сам працаваў мэтанакіравана ў духу новага часу». Што ж, гэтай характарыстыцы нельга не верыць. І ўсё ж галоўная лінія паводзін вучонага — прыстасавальніцтва, хісткасць навуковых пазіцый — відаць, не зазнала істотных змен. Бо і пасля XX з'езда, як адзначаецца ў лісце, В. Барысенка «незаслужана асуджаў некаторыя творы В. Быкава, выступаў з нападкамі ў ходзе афіцыйна развязанай кампаніі супраць рамана Б. Пастарнака «Доктар Жывага», як і многія тагачасныя крытыкі і пісьменнікі» (падкрэслена мною. — А. К.).**

**Ліст В. Каваленкі дае яскравыя штрыхі да партрэта навукоўца перыяду рэпрэсій і застою, паказвае яго маральнае аблічча і жыццёвыя прынцыпы. У гэтым перш за ўсё каштоўнасць публікацыі, асабліва для навуковай моладзі, студэнцтва. Шкада толькі, што гэты актуальны допіс змешчаны ў самым канцы тыднёвіка.**

**Алесь КАЎРУС.**

## Паэзія

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**



# КРУГАЗВАРОТ

●

Быў загнаны, як у пастку,
Я ў глухую цішыню,
А цяпер душы хоць частку
аднадумцам адчыню.

### *Прарочыя сны*

Не обратил ли Бог мудрость мира сего в безумие?
Першае пасланне карынфянам святога апостала Паўла.

Прыходзяць сны пачварныя, як здані,
То падаю, то на крыжы вішу,
Як толькі ў вокнах засінее ранне,
Што значыць гэты сон, я варажу.

І нарастае кожны дзень трывога,
А часам на сябе самога злосць,
Што не лічыў ніколі Богам Бога,
А ён усё ж, магчыма, недзе ёсць.

Не Саваоф з сівою барадою,
І не Ілля, разгневаны прарок,
А нехта ж правіць шчасцем і бядою,
Узносіць і карае незнарок.

Ён даў усё, што трэба чалавеку, —
Жыццё, і мудрасць, і любоў навек,
Вёў праведнікаў у Карынф і ў Меку,
Пакуль не збіўся з тропу чалавек,

І, вырваўшыся з боскае улады,
Цягнуў пакуты на сваім гарбе,
А хіжы кат спакойны быў і рады,
Што мог караць мудрэйшых за сябе.

Штодня таемна гінулі ахвяры,
Жывых паскручвалі ў бараній рог,
А праведнікаў ад крывавай кары
Не ўратавалі ні Закон, ні Бог.

За мною ўслед хадзіла пакаранне,
Знаходзіла і гнула ўсё часцей.
Мне лёс наканаваў выпрабаванне,
Каб стаць пасля чысцілішча чысцей.

У сны прарочыя я веру і не веру,
Але ратунку мне ад іх няма.
Я не баюся ні агню, ні звера,
Каб толькі не прыснілася турма.

### *Мана*

Хавалі праўду ад народа
За непрыступную сцяну.
Была тады такая мода:
За праўду выдаваць ману.

Хлусілі з рання і да рання
Пісцы і дыктары штодня.
За паслушэнства і старанне
Карміла іх бяздумная хлусня.

### *Кругавая абарона*

Чыноўніцтва займае абарону,
Трымае і тылы, і правы фланг.
Падтрымку мае ў шэфа і ў патрона,
Бо выбілася ў адпаведны ранг.

Гудзе наменклатурнае дваранства,
Мяняе крэслы, шыльды, адрасы,
Бо ў кожнага — надзейнае падданства
З гарантыяй на доўгія часы.

Чыноўнікі прыварак да зарплаты
Умеюць нават з ялаўкі даіць.
Як Ванька-ўстанька, чынадрал заўзяты,
Куды ні кінеш — ён ізноў стаіць.

Усё спустошыў — поле і прылаўкі,
А сам сабе дабро аберуч гроб...

Прыстойны папрасіўся б у адстаўку,
Або пусціў бы нават кулю ў лоб.

Але здавацца чынадрал не хоча,
Гатовы аж да скону кіраваць,
І, бессаромна гледзячы у вочы,
Усіх пусціць па свеце жабраваць.

### *Закон*

Дзе больш за ўсё патронаў і гармат,
Клапоціцца не аб жыцці, а сконе.
Там, дзе законаў вельмі шмат,
Найбольш бывае беззаконня.
Закон павінен быць для ўсіх адзін,
На ўсе часы, узросты, пакаленні:
Калі ты Чалавек, калі Грамадзянін,
Павінен мець сумленнае Сумленне.

### *Рацы*

Ахвочыя да ўзнагародаў
Усё, што маглі, здабылі,
Мацуючы «дружбу народаў»,
Так дружна яе прапілі.

Падводзілі смела аснову
Да ўласных высноў і сістэм,
Адзіную сцвердзілі мову,
Таму, як нямыя, жывем.

Забыліся роднае слова,
Не ўспомнім, як маці завуць,
Забілі нам глупствам галовы,
Што цяжка набок павярнуць.

---

*Святлана Алексіевіч*

# «Мы вяртаемся адтуль...»

**Старонкі з кнігі «ЦЫНКАВЫЯ ХЛОПЧЫКІ» — маналогі тых, хто прайшоў Афганістан**

**Гісторыя гэтай вайны яшчэ не напісана. Мы ведаем пра яе роўна столькі, колькі нам можна ведаць, каб не ўбачыць сябе такімі, якія мы ёсць. Але ў гэтай вайны ёсць сведкі. Тысячы сведак. І яны хочуць быць пачутымі раней, чым іх прыдумаюць такімі, якімі яны будуць зручныя і зноў камусьці для нечага патрэбныя. Яны хочуць быць патрэбнымі праўдзе, якую ўжо не схаваеш у цынкавых трунах ад мацярок, жонак, сыноў, усіх нас. Яны розныя, рознае яны пабачылі і рознае перажылі. Адны хочуць звацца героямі. Другія не ведаюць, хто яны. Трэція ў адчаі — хто яны! Нам трэба зразумець усіх, бо яны нашы дзеці, мужы, браты.**

**Не кажыце, што вы не былі на гэтай вайне. Няпраўда! Мы ўсе вярнуліся адтуль...**

**Томас Н., сяржант, камандзір узвода:**

«Як у сне... Як быццам я недзе гэта глядзеў... У нейкім фільме... Такое цяпер адчуванне, што нікога не забіваў...

Сам паехаў. Папрасіўся добраахвотна. Хацеў выпрабаваць сябе, на што я здольны. У мяне вялікае «я». Вучыўся ў інстытуце, там сябе не пакажаш. Не ўведаеш, хто ты. Хацеў стаць героем, шукаў выпадку стаць героем. Пайшоў з другога курса. Кажуць: мужчынская вайна... Хлапечая вайна... Ваявалі адны хлапчукі... Нядаўнія дзесяцікласнікі... Для нас гэта, як гульня. Вельмі важным было тваё самалюбства. Твой гонар. Змагу ці не змагу. Ён змог. А я? Мы гэтым былі захоплены, а не палітыкай. Я з дзяцінства рыхтаваў сябе да якіхсьці выпрабаванняў. Джэк Лондан — мой любімы пісьменнік. Сапраўдны мужчына павінен быць дужым. Дужымі становяцца на вайне. Мая дзяўчына адгаворвала мяне: «Уяві сабе, каб нешта такое сказаў Бунін ці Мандэльштам?» З сяброў ніхто мяне не зразумеў. Хто ажаніўся. Хто ўсходняй філасофіяй захапіўся. Хто — ёгай. Адзін я — на вайну.

...Уверсе выгаралыя на сонцы горы... Унізе дзяўчынка сварыцца на казу... Жанчына вешае бялізну... Як у нас на Каўказе... Нават расчараваўся... Уначы — стрэл у наша вогнішча: падняў чайнік, пад чайнікам куля. У пераходах — смага. Пакутлівая і ўнізіцельная. Рот сушыць, нельга сабраць слінку, каб пракаўтнуць. Здаецца, у цябе повен рот пяску. Лізалі расу, глыталі ўласны пот... Мне жыць трэба. Я жыць хачу! Злавіў чарапаху. Вострым каменьчыкам праткнуў горла. Піў кроў чарапахі. Іншыя не маглі. Ніхто не мог.

Зразумеў, што здольны забіваць. У руках — зброя. У першым баі бачыў, як у сяго-таго бывае шок. Трацяць прытомнасць. Некаторых ванітуе нават пры згадцы, як яны забівалі. Разрываюцца чалавечыя мазгі... Па чалавечым твары цячэ чалавечае вока... Я вытрымліваў! Быў сярод нас паляўнічы, хваліўся, што да арміі забіваў зайцоў, валіў дзікоў. Дык вось яго заўсёды ванітавала. Чалавека забіць адно, жывёліну — другое. У баі робішся драўляным... Халодны розум... Разлік... Матэматыка... Мой аўтамат — маё жыццё... Аўтамат прырастае да цела... Як яшчэ адна рука... Я любіў яго... Цалаваў...

Там была партызанская вайна, вялікія баі — рэдкасць. Заўсёды: ты і ён. Робішся чуйным, як рысяня. Пусціў чаргу — ён сеў. Чакаеш. Хто цяпер? Яшчэ не пачуў стрэлу, а ўжо адчуў, як праляцела куля. Ад каменя да каменя паўзеш... Затойваешся... Гонішся за ім... Як паляўнічы... Увесь — спружына... Не дыхаеш... Ловіш нейкае імгненне... Калі б сышліся, мог бы забіць прыкладам... Забіваеш — адчуваеш, што ты жывеш! Я — зноў жывы! Радасці забіць чалавека няма. Забіваеш, каб вярнуцца дадому.

Забітыя розныя. Аднолькавых няма... Ляжаць у вадзе... У вадзе штосьці адбываецца з мёртвым тварам. Нейкая ўсмешка ва ўсіх. Пасля дажджу яны ляжаць чыстыя. Вымытыя. Можна падумаць, што радасныя. Без вады, у пыле смерць больш агаленая. Форма на ім новенькая, а замест галавы сухі чырвоны ліст... Раздавіла, раструшчыла, як яшчарку. Але ж я жывы! Сядзіць пад сцяной... Ля хаты... Побач арэхі колатыя... Пэўна, еў... З расплюшчанымі вачамі... Не было каму закрыць... Пасля смерці... Дзесяць-пятнаццаць хвілін... Можна закрыць вочы... Пасля нельга... Але ж я жывы! Другі нагнуўся... Шырынка расшпілена... Па патрэбе выйшаў... Як жылі ў той момант, так і ляжаць... Але ж я жывы! Гатовы памацаць сябе, пераканацца... Птушкі не баяцца смерці. Сядзяць, глядзяць. Дзеці не баяцца смерці. Таксама сядзяць, глядзяць. Спакойна, з цікаўнасцю. Як птушкі. У сталовай сёрбаеш суп, зірнеш на суседа і ўяўляеш яго мёртвым. Адзін час на фатаграфіі блізкіх не мог глядзець. Вернешся з задання — дзяцей, жанчын спатыкаць невыносна. Адварочваешся. Але мінаецца. Раніцай ідзеш на зарадку. Штангай займаліся. Думалі аб форме. Не высыпаліся, праўда. Вошы, асабліва зімой. Матрацы дустам абсыпалі.

Боязь смерці я зведаў дома. Вярнуўся, у мяне нарадзіўся сын. Страх: калі я памру, мой сын будзе расці без мяне. Сем-восем куль запомніў... Маглі, як мы казалі, адправіць мяне да «верхніх людзей»... Прайшлі міма. Нават такое адчуванне, што не дагуляў... Не даваяваў... Як ва ўдачлівага паляўнічага... Хутка скончылася...

Віны на мне няма, кашмараў не баюся. Заўсёды выбіраў сумленны паядынак: ён і я. Калі ўбачыў, як б'юць палоннага... Б'юць удвух... А ён звязаны... Ляжыць, як ануча... Я іх разагнаў, не даў біць... Такімі пагарджаў... Бярэ аўтамат і страляе ў арла... Па мордзе аднаму заехаў... Птушку — за што? Што яна яму зрабіла?

Родныя распытвалі:

— Як там?

— Ды так. Выбачайце. Пасля раскажу.

Скончыў інстытут, працую інжынерам. Успамінаць няма ахвоты. Хоць я не ведаю, што будзе з намі, з пакаленнем, якое выжыла. Упершыню так выгаварыўся... Як у цягніку... Сышліся незнаёмыя людзі, пагаманілі і выйшлі на розных станцыях... Рукі ў мяне дрыжаць... Чагосьці хвалююся... А мне здавалася, што я лёгка выйшаў з гульні... Будзеце пісаць, майго прозвішча не называйце... Я нічога не баюся... Але я не хачу ва ўсёй гэтай гісторыі быць...»

**Галіна ПАЎЛАВА, медсястра:**

«Кожны дзень я сабе там гаварыла: «Дурніца ж я, дурніца. Навошта гэта зрабіла?» Асабліва ўначы з'яўляліся такія думкі, калі не працавала, а ўдзень былі іншыя — як усім памагчы! Яны ляжалі маленькія... Раны страшныя... Мяне калаціла, навошта такія кулі? Хто іх прыдумаў? Хіба чалавек іх прыдумаў? Уваходная дзірачка — маленькая, а ўсярэдзіне кішкі, печань, селязёнка — усё пасечана, парвана. Мала забіць, параніць, трэба яшчэ так пакутаваць. Яны крычалі: «Мама!» Калі баліць... Калі страшна... Іншых імён я не чула...

...Я хацела паехаць з Ленінграда, на год-другі, але паехаць. Памёрла дзіця, пасля памёр муж. Нішто не трымала мяне ў гэтым горадзе, усё нагадвала, гнала прэч. Там мы з ім сустракаліся... Тут першы раз пацалаваліся... У гэтым раддоме я раджала...

Выклікаў мяне галоўурач:

— Паедзеце ў Афганістан?

— Паеду...

Мне трэба было бачыць, што іншым горш, чым мне. І я гэта ўбачыла. Вайна, нам казалі, справядлівая, мы памагаем афганскаму народу скончыць з феадалізмам і пабудаваць светлае сацыялістычнае грамадства. Пра тое, што нашы хлопчыкі гінуць, неяк замоўчвалася, мы зразумелі так, што там шмат інфекцыйных захворванняў — малярыя, брушны тыф, гепатыт. Васьмідзесяты год... Пачатак... Прыляцелі ў Кабул... Пад шпіталь аддалі англійскія канюшні. Нічога няма... Адзін шпрыц на ўсіх...

«Пражская вясна». Гэта і мой цяперашні канцэртмайстар Алена Аляксеева.

Мне, напэўна, як жанчыне, хацелася б бачыць за раялем мужчыну. Наогул, я лічу, што праца з рознымі канцэртмайстрамі ўзбагачае выканаўцу.

**Л. І. Вы ведаеце, апошнім часам у прэсе з'явіліся рубрыкі: «Хачу сказаць ураду» ці «Калі б я быў міністрам». А вось калі б вы былі міністрам?..**

**С. Д.** Ваша пытанне я разумею так: што можна зрабіць, каб палепшыць... На мой погляд, у нас можна многае палепшыць і зараз. Праўда, я цалкам пагаджаюся з акадэмікам Д. Ліхачовым, які на З'ездзе народных дэпутатаў пераканаўча гаварыў пра жудасны стан нашай культуры і пра адносіны да яе. Так будзе і далей, калі мы не зразумеем, што без культуры, без духоўнасці не будзе працаваць ніводны наш добры намер. Будуць працягвацца Чарнобылі, Башкірыі і г. д. Пакуль што мы, «як усе цывілізаваныя краіны», маем наркаманію, прастытуцыю, рэкет. А можам і павінны ўзяць за мяжой іншае, лепшае! Чаму ў ЗША 1200 сімфанічных аркестраў і яны патрэбныя, а ў нас у СССР 59 — і яны непатрэбныя? Чаму ў ЧССР 14 оперных тэатраў, а ў нас на Беларусі — адзін? І паспрабуй каму-небудзь давесці, што гэта бяда. Таму што без маральнай асобы, якую мы павінны выхаваць, прагрэс немагчымы. Нездарма ж японцы лічаць, што людзі з нізкай культурай і працуюць горш.

Каб падняць, скажам, прафесійны ўзровень ДАВТа БССР, на мой погляд, трэба не мастацкі савет ствараць, які толькі дзеліць прыбаўкі да заробку, а знайсці кампетэнтнага музычнага дырэктара, які кампетэнтна адказваў бы за прафесійны ўзровень трупы тэатра. Можа, перайсці, нарэшце, на сістэму кантрактаў хоць бы для выканаўцаў вядучых партый? Тады б і тыя, хто чакае пенсіі ў тэатры, клапаціліся б пра сваю прафесійную адпаведнасць.

Я б прапанавала тэатру мець больш кантакт з кампазітарамі. Лічу, што ўзорным прыкладам гэтага можа быць опера У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха». Тут інтуітыўная адоранасць кампазітара ў садружнасці з калектывам тэатра, на мой погляд, узняла беларускую оперу на новы якасны ўзровень. (Зазначу, між іншым, што я даўно мару пра монаоперу для сябе, і цяпер мне здаецца, што ў асобе У. Солтана я знайшла для сябе такога кампазітара).

Ці што датычыцца, скажам, работы філармоніі. Сённяшняя сістэма яе арганізацыі не задавальняе нікога. Зыходзячы з практыкі арганізацыі філарманічнай работы за мяжой, трэба падзяліць эстраду і «сур'ёзныя» музычныя жанры. Класічная музыка павінна быць на дзяржаўнай датацыі. Наогул жа мастацтва, якое існуе толькі дзеля матэрыяльнага прыбытку, — гэта не мастацтва. Галоўная мэта сур'ёзнай музыкі — стварэнне духоўных скарбаў. Культура, музыка, маральнасць — без гэтага нічога ў свеце існаваць не можа...

**Л. І. Святлана Піліпаўна, вас некалькі разоў запрашалі выкладаць на кафедру спеваў у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, але згадзіліся вы толькі зараз. З чым гэта звязана і што вы думаеце пра сваю новую дзейнасць?**

**С. Д.** Не згаджалася раней, бо не адчувала яшчэ сваёй кампетэнтнасці ў такой складанай справе, як выкладанне. Гэта толькі маладыя часцей за ўсё безаглядна бяруцца нават за тое, чаго яшчэ не ведаюць. З гадамі ж да ўсяго ставішся з усё большай адказнасцю. Цяпер мне здаецца, што мне ўжо ёсць што сказаць і як выкладчыку.

**Л. І. Якімі якасцямі, на вашу думку, павінен валодаць настаўнік?**

**С. Д.** У кансерваторыі я вучылася толькі ў аднаго выкладчыка — народнай артысткі СССР Зоі Міхайлаўны Гайдай. Гэта не значыць, што я больш ні ў кога і нічому не вучылася. Тэхналагічна, калі можна так сказаць, я вучылася і вучуся і цяпер у многіх. Але ўзорам інтэлігентнасці, выхаванасці было для мяне менавіта З. М. Гайдай.

Сэнс настаўніцтва я бачу ў тым, каб навучыць шукаць, навучыць вучыцца... Галоўнае — сфарміраваць асобу, якая імкнулася б да самаўдасканалення, сфарміраваць патрэбу да гэтага самаўдасканалення...

**Л. І. Святлана Піліпаўна, традыцыйнае пытанне: вашы планы на будучае?**

**С. Д.** Адкажу коратка: гастролі, новы цыкл перадач на тэлебачанні. Магчыма, выступленні ў оперных спектаклях, работа ў кансерваторыі...

**Леанід ІВАШКОЎ,**
**загадчык кафедры спеваў БДК.**



Дракон — П. ДУБАШЫНСКІ; Ланцэлот — А. ЛАБУШ.



Сцэна са спектакля.

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

дакорна ўзвышанымі і высакароднымі. Вобраз жа Ланцэлота крыху пераасэнсаваны. Ён пазбаўлены рамантычных рысаў героя і рыцара. Прайшоўшы праз надзеі і спадзяванні, ён духоўна сталее і мужнее. У другім акце ён вяртаецца ў горад Дракона пасля працяглай хваробы. Доўгае паліто-шынель, капялюш, галіфэ, боты даюць штуршок глядацкаму ўяўленню: Ланцэлот ці то эмігрант, ці то рэабілітаваны—пасівелы, задуменны, маўклівы.

Страціўшы надзею вызваліць ад рабства прывучаныя да пакорлівасці душы людзей, Ланцэлот гатовы дзейнічаць гвалтам — звыклай формай стаўлення да народа. Губляючы ўладу над сабой, ён кідае не адно тым, хто стаіць за ім, але і тым, хто сядзіць у зале: «Быдла!». Рыцар быццам страчвае надзею ў здольнасці людзей... Але спыняецца: рашуча скінуўшы шынель, сядае за архіўныя паперы, каб уважліва і карпатліва разабрацца ў мінуўшчыне і цяперагшчыне. На такой ціхай, чалавечай ноце заканчваецца «Дракон» купалаўскага тэатра. І гэтая нота абнадзейвае...

«Дракон» сёння актыўна практыкуецца тэатрам. А жанр спектакля ўсё больш набліжаецца да эстраднага прадстаўлення. Думка, закладзеная і ў драматургічным творы, і ў пастаноўцы, у нейкім сэнсе прадвызначае падобную трансфармацыю. Рытуальны характар нашага «грамадскага самавыяўлення» з яго адшліфаванымі формамі, якія нагадваюць своеасаблівыя трукавыя нумары — сходы, канферэнцыі, прыёмы, калі яны робяцца не больш чым чарговым фарсавым нумарам, — гэты стыль грамадскага жыцця трансфармаваны ў мастацкай форме спектакля. Кожны персанаж у «Драконе» мае свой эфектны трукавы нумар, кожны выходзіць на сцэну як на арэну цырка: выязджае пад гукі фанфар аўтамабіль, дзе сядзяць розныя ўвасабленні Дракона, з'яўляецца на дзіцячым самакаце Бургамістр, амаль танцуючы, выпырхваюць Шарлемань і Эльза... Дарэчы, інтымныя пачуцці Эльзы і Ланцэлота таксама «аформлены» эстрадным нумарам — музычным дуэтам. Нават унутранае жыццё чалавека не знаходзіць у царстве Дракона натуральнага выйсця, але непазбежна ўліваецца ў агульнапрыняты, апошлены «жанр».

Спектакль, які складаецца з падобных «трукавых» нумароў, аказаўся нібы размагнічаным, раскінутым на часткі. Змяніліся ўнутраныя сувязі пастаноўкі, разбурылася драматургія адносін паміж асобнымі жанравымі аскепкамі, дзеянне нібыта спынілася. Нават масоўка, такая адладжаная, сабраная на прэм'ерных паказах, ператварылася ў млявы натоўп.

Цяжка ўтрымаць у раўнавазе агітпрадстаўленне, лірычныя маналогі і дуэты, фарсавыя нумары. Драматургія спектакля складалася з вельмі далікатных прапорцый, якія грунтаваліся на пачуцці меры ў дачыненнях паміж рознымі жанравымі ўтварэннямі. Любы акцэнт мог зрушыць спектакль у той альбо іншы бок. У пракаце такіх акцэнтаў аказалася зашмат...

М. Пінігін паставіў «Дракона» ў нязвыклай для сябе манеры. Рэжысёр, здольны ствараць на сцэне псіхалагічна складанае і метафарычна насычанае асяродзе, якое заўсёды ўспрымалася неадназначна, гэтым разам, развіваючы матывы шварцаўскай п'есы, вельмі стараецца расставіць усе кропкі над «і». Там, дзе ў Шварца нейкі матыў толькі-толькі пазначаны, думка ледзь-ледзь прапісана, — у спектаклі падкрэслены тоўстаю рысай...

Імкнучыся ў відовішчным баку пастаноўкі да плаката М. Пінігін не здолеў адмовіцца ад унутрана драматычнай думкі спектакля. І гэта супярэчнасць няпросталінейнага глыбіннага тэатральнага мыслення і просталінейнасці вонкавай формы спектакля таксама адбілася на жыцці «Дракона». Відаць, эклектыка, нават у якасці мастацкага стылю, сёння ўсё-такі зжывае сябе...

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ.**

# Рух рукі і думкі

**Арлену КАШКУРЭВІЧУ — 60**

Цяжка гаварыць пра свайго калегу, асабліва калі ён ужо сам усё сказаў сваімі творамі; калі самі за сябе гавораць ягоны аўтарытэт у прафесійным асяроддзі, цікаўнасць да яго твораў сярод аматараў мастацтва. Мастакоў такога класа на Беларусі наогул няшмат. Але ж па-сапраўднаму асэнсаваць ягоныя творчыя здабыткі нам не дазваляе славутая беларуская «сціпласць» і схільнасць шукаць пракаў па ўсім далёкім і блізкім свеце, толькі не ва ўласнай Айчыне. Упэўнены, што слава Кашкурэвіча на Беларусі была б куды большая, каб жыў ён недзе ў Прыбалтыцы ці ў Маскве і толькі наездамі рабіў выстаўкі ў Мінску.

У той час, калі я толькі збіраўся паступаць у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, Арлен Міхайлавіч быў ужо даволі вядомым мастаком. Фармальна я не магу аднесці сябе да ліку ягоных вучняў. Але не памылюся: уплыў ягонай творчасці адчула і адчувае на сабе ўсё пакаленне, якое я прадстаўляю.

Графічныя аркушы Арлена Кашкурэвіча, якія сёння сталі класікай нашага мастацтва, у свой час успрымаліся так жа нязвыкла, як сёння самы смелы «авангард». Мастацтвазнаўцы шукалі вобразныя і стылістычныя аналагі ягоных твораў у сучасным італьянскім мастацтве (у прыватнасці, у палотнах Гутуза), у творах нямецкіх экспрэсіяністаў ці ў манументальным жывапісе Мексікі. Зноў жа сказаўся наш стэрэатып мыслення, згодна якому — усё вартае, што ёсць на Беларусі, ці завезена з-за мяжы, ці зроблена па чужых мерках. На самай жа справе Арлен Кашкурэвіч дасягнуў вышынь у мастацтве менавіта таму, што ягоны талент меў і мае выразную нацыянальную афарбоўку. Да якой бы тэмы мастак ні звяртаўся, з кнігай якога б аўтара ён ні працаваў, ён заўжды застаецца беларускім мастаком. І казкі Андэрсена, і твенаўскі «Том Сойер», і «Фаўст» Гётэ ў яго гучаць на мове менавіта беларускай пластыкі.

Але ж, думаю, найбольшага плёну Арлен Міхайлавіч дасягае, калі звяртаецца да нашай нацыянальнай спадчыны. Гэта найперш — ягоная Купаліяна. Памятаю, як мяне ўразілі ілюстрацыі да малафарматнага выдання «Кургана» (1967 г.), выкананыя акварэллю і тушшу, серыя літаграфій паводле купалаўскіх паэм (1971 г.). А ў больш позні час — ілюстрацыі да «Песні пра зубра» М. Гусоўскага (1973 г.). Мне нават здаецца, што і сам Купала, каб быў жывы, ухваліў бы творы Кашкурэвіча, бо мастак адчуў у паэзіі нашага песняра глыбіннае, вечнае. Гусляр, Князь, Бандароўна ў ягоным разуменні — гэта не нейкія міфічныя асобы са старажытных легенд, а вечныя персанажы нашай гістарычнай драмы, дзе з вякамі мяняюцца толькі дэкарацыі, але не змест.

Кашкурэвіч, дарэчы, быў адным з першых, хто ў наш час пасля вялікага «перапынку», утворанага «барацьбою з нацдэмаўшчынай», распачаў у выяўленчым мастацтве распрацоўку беларускага нацыянальнага тыпажу. Зараз, калі ў меру сваіх сіл гэта ж спрабую рабіць і я, вопыт Арлена Міхайлавіча мне вельмі дапамагае.

Арлен Кашкурэвіч скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі ў 1959 годзе. Гэта быў першы выпуск кафедры графікі. Ён і яго таварышы па курсе былі першымі беларускімі графікамі, якія атрымалі вышэйшую мастацкую адукацыю на радзіме. За гэтыя 30 год у нас склалася нацыянальная школа графікі, якая мае даволі высокі аўтарытэт і ў краіне, і за яе межамі. Але ў пэўным сэнсе Кашкурэвіч па-ранейшаму застаецца па-за канкурэнцыяй. Сённяшнія беларускія графікі маюць добрую школу, умеюць працаваць у розных тэхніках. Многа мастакоў здольны зрабіць добрыя ілюстрацыі. А вось знайсці гарманічнае спалучэнне тэксту і малюнка дадзена нямногім. Тут добрай тэхнікай не абыдзешся, патрэбны прафесійны такт, урэшце — інтэлект. Тут часам трэба сябе стрымліваць, свядома ставіць сабе межы, каб твая мастакоўская інтэрпрэтацыя не пярэчыла пісьменніцкай задуме. Арлен Міхайлавіч гэта ўмее.

Кажуць, што кожнаму чалавеку ў жыцці даецца «зорнае імгненне», калі ўсё яму спрыяе, калі лёс нібыта дае яму магчымасць ажыццявіць галоўнае, дзеля чаго ён нарадзіўся на свет. Але калі ты склаўшы рукі будзеш проста чакаць азарэння, дык яно ніколі не прыйдзе. Трэба працаваць. Калегі ведаюць Арлена Міхайлавіча як вялікага працаўніка, як мастака, у якога «рука рухаецца разам з думкай». Менавіта таму яму так шанцуе ў творчасці.

**Уладзімір САВІЧ.**

# ЮБІЛЕЙНЫ, СЯМІДЗЕСЯТЫ

**4 кастрычніка неўміручай купалаўскай «Паўлінкай» адкрывае чарговы сезон Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Сезон гэты незвычайны, юбілейны — у верасні 1990 года старэйшаму тэатральнаму калектыву рэспублікі спаўняецца 70 гадоў.**

**Канец мінулага сезона і гастрольнае лета былі для купалаўцаў напружанымі і адказнымі. Амаль уся трупа занята ў апошніх прэм'ерах — спектаклях «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева і «Памінальная малітва» Р. Горына (паводле твораў Шолам-Алейхема), якія выклікалі вялікую цікавасць гледачоў, прэсы і тэатральнай грамадскасці пад час гастроляў у Кіеве ў ліпені месяцы. А пачаліся летнія дарогі тэатра яшчэ ў канцы мая — на традыцыйным міжнародным фестывалі гумару і сатыры ў г. Габраве (Балгарыя) была паказана сатырычная камедыя М. Матукоўскага «Мудрамер». Спектаклі купалаўцаў бачылі таксама гледачы Северадзвінска (Архангельская вобласць), Старых Дарог, Глыбокага, Полацка.**

**Бліжэйшыя сёлетнія прэм'еры тэатра імя Я. Купалы — спектаклі па творах сучасных драматургаў сацыялістычных краін: народная артыстка БССР З. Браварская рэпеціруе спектакль «Яны любілі яго» папулярнага венгерскага драматурга А. Кертаса, рэжысёр М. Пінігін ставіць «Эмігрантаў» С. Мрожака. Да навагодніх школьных канікул купалаўцы рыхтуюць падарунак самым юным гледачам — спектакль-казку «Царэўна-жабка» Г. Сакаловай, ставіць яго рэжысёр-стажор Ю. Кулік пад кіраўніцтвам галоўнага рэжысёра тэатра В. Раеўскага. На малой сцэне гледачы неўзабаве ўбачаць драму С. Злотнікава «Дурное жыццё» (рэжысёр А. Андросік), упершыню ў СССР будзе пастаўлена трагікамедыя французскага пісьменніка і філосафа Жана-Поля Сартра «Пры зачыненых дзвярах» (рэжысёр Д. Аляхновіч). Самай значнай работай першых месяцаў наступнага года будзе сцэнічнае ўвасабленне славутых «Тутэйшых» Янкі Купалы (рэжысёр М. Пінігін).**

**У лістападзе калектыў тэатра чакае адказная творчая справаздача: на сцэне Тэатра Дружбы народаў у Маскве будзе паказаны спектакль «Страсці па Аўдзею».**

**Чым непасрэдна сустрэнуць купалаўцы юбілей, гэта ўдакладніцца ў самы бліжэйшы час. Хацелася б, каб гэта быў спектакль па цікавым новым творы беларускай нацыянальнай драматургіі. Мяркуем, што гледачы змогуць без перашкод зайсці з параднага ўвахода (прынамсі, так абяцаюць метрабудаўцы) у будынак, у маі 1990 года якому спаўняецца роўна 100 гадоў.**

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

